


“Каб усе былі адно” (Ян 17, 21)

# Царква

№ 2 (25), 2000

СЬВЯТА ПЯТРА І ПАЎЛА

## Сьвятому Айцу Яну Паўлу ІІ – 80 гадоў



«Успомні, Госпадзе, Сьвятога Айца нашага сусьветнага біскупа Яна Паўла, Папу Рымскага і захавай яго для сьвятых Тваіх Цэркваў у супакоі, цэласьці, добрай славе, здароўі і даўгалецьці, каб ён мог верна навучаць нас словам Тваёй праўды».

## Юбілейная пілігрымка ў Альбярцін

У Нядзелю Крыжапаклонную, 26 сакавіка 2000 году, адбылася юбілейная пілігрымка вернікаў нашай Царквы да памятнага Крыжа ў слонімскім прадмесьці Альбярцін, дзе знаходзілася рэзідэнцыя айцоў езуітаў усходняга абраду. Удзел у ёй, акрамя слонімскіх грэка-католікаў, узялі больш за сотню вернікаў з Горадні, Івацэвічаў, Баранавічаў, Берасьця і Гомеля.

Для слонімскіх вернікаў парафіі Сьвятой Тройцы гэта была асаблівая ўрачыстасьць, якая, да таго ж, упершыню так шырока адзначалася. У гэтым годзе спаўняецца 75 гадоў з часу афіцыйнага аднаўленьня ўніяцкай парафіі ў Альбярціне, і ў гэты дзень слонімцы ўпершыню маглі маліцца разам з усімі іншымі вернікамі не ў прыватным памяшканьні, а ў храме, які збудавалі альбярцінскія айцы езуіты. Да гэтай падзеі слонімскія грэка-каталікі таксама прымеркавалі выпуск першага нумару сваёй парафіяльнай газеты «Наша вера».

Урачыстую сьвятую Літургію ў памяць аб альбярцінскіх айцах езуітах і Малебен за беларускі народ адслужыў адміністратар Слонімскай парафіі а. Ігар Кандрацьеў з Берасьця. 25 сакавіка ў нашай Царкве — Дзень малітваў за Бацькаўшчыну, таму ў Нядзелю Крыжапаклонную вернікі таксама прасілі Госпада і аб ласках для нашага беларускага народу. Затым айцец Ігар разам з дыяканам Вадзімам Зарковым і вернікамі адслужылі паніхіду ля памятнага Крыжа, які быў устаноўлены ў памяць аб айцах езуітах усходняга абраду на 400-ыя ўгодкі Берасьцейскай Уніі.

*Працяг на с.15* ⇨



АПОСТАЛЬСКІ ВІЗІТАТАР
ДЛЯ ГРЭКА-КАТОЛІКАЎ У БЕЛАРУСІ

*Яго Сьвятасьці*
*Сьвятому Айцу Яну Паўлу II*
*Найвышэйшаму Архірэю*
*Паўсюднае Царквы,*
*Ватыкан*

Найсьвяцейшы Ойча!

Ва ўрачысты дзень 80-й гадавіны нарадзінаў Вашай Сьвятасьці ад імя ўсёй Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, кліру ды вернікаў прагну перадаць Вашай Сьвятасьці найшчырэйшыя прывітаньні ды найлепшыя пажаданьні.

Молімся сёньня горача, каб Уваскрослы Хрыстос даў Вашай Сьвятасьці Свае багатыя ласкі і захаваў Вас у служэньні ўсяму народу Божаму *«ad multos annos»* — на многія леты.

Дзякуем Вашай Сьвятасьці за айцоўскі клопат аб нашай Царкве і ўзносім малітвы да Госпада, каб ён даў Вашай Сьвятасьці магчымасьць наведаць Беларусь ды ўзмацніць нас — усіх католікаў двух абрадаў — Вашым Апостальскім Словам.

Пакорна просім Вашага Апостальскага бласлаўленьня для ўсіх вернікаў нашай Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі.

Застаюся ў найглыбейшай сыноўняй любові.

*архімандрыт Сяргей Гаек, візітатар*
*Менск, 18.05.2000*

# Сьвяты Айцец Ян Павел II адзначыў 80-гадовы юбілей

З нагоды 80-й гадавіны народзінаў Папы Яна Паўла II і Юбілею Сьвятароў 18 траўня 2000 году была адслужана ўрачыстая Эўхарыстыя на плошчы сьв. Пятра. Сьвятую Імшу ўзначальваў сам дастойны Юбілят, Папа Ян Павел II. На Юбілей Прасьвітараў прыехала шмат сьвятароў з усяго сьвету. Таксама прыбыла й група сьвятароў з Беларусі, каля 40 чалавек, а ўсіх сьвятароў на гэтым урачыстым набажэнстве было больш за 4 тысячы.



У сваім казаньні ў часе Сьвятой Імшы Сьвяты Айцец адзначыў: «Галоўным Сьвятаром, Найвышэйшым Сьвятаром зьяўляецца сам Ісус Хрыстос. Ён — як сьцьвярджае Пасланьне апостала Паўла да Габрэяў — з уласнаю крывёю, адзін раз увайшоў у сьвятыню, знайшоўшы вечнае адкупленьне. Хрыстос, Сьвятар і Ахвяра: Ён «той самы ўчора, сёньня і назаўсёды». Мы сабраліся гэтае раніцы,— працягваў Папа,— каб абмеркаваць Ягонае сьвятарства, мы (як прасьвітары) былі пакліканыя ўдзельнічаць у ім у адмысловы спосаб.

Аб сьвятарскім служэньні гаворыць сёньняшняя Літургія, у якой духоўна мы вяртаемся да Тайнай Вячэры, да апошняй Вячэры, калі Хрыстос мыў ногі апосталам. Хрыстос гаворыць пра сябе: «Я сярод вас як паслугуючы». Настаўнік пакідае сваім сябрам прыказаньне любіць адзін аднаго, як Ён іх любіў, ды служыць адзін аднаму: «Я даў вам прыклад, каб, як Я зрабіў вам, рабілі і вы».

Падчас Апошняе Вячэры Хрыстос узяў хлеб у Свае рукі, паламаў яго і даў апосталам кажучы: «Гэта Цела Маё, якое за вас даецца». Пазьней узяў чашу, напоўненую віном, і даў яе апосталам кажучы: «Гэта чаша крыві Маёй Новага Запавету, якая за вас і за многіх праліваецца для адпушчэньня грахоў. Рабіце гэта на маю памяць». Кожны раз, калі паўтараеце гэты абрад, як тлумачыць апостал Павел, «вы абвяшчаеце сьмерць Гасподнюю аж пакуль Ён прыйдзе».

«Дарагія сьвятары!— гаварыў Папа, зьвяртаючыся да некалькіх тысячаў сьвятароў з усяго сьвету.— Такім чынам у вашыя рукі Хрыстос узлажыў пад відам хлеба і віна жывы ўспамін Самаахвярнасьці, якую Ён ахвяраваў Айцу Нябеснаму на крыжы. Гэтую ахвяру Ён даручыў сваёй Царкве, каб яна гэтую ахвяру ўшаноўвала аж да канца сьвету. У Царкве, як мы ведаем, Ён сам, як Вярхоўны і Вечны Сьвятар Новага Запавету, дзейнічае сярод нас на працягу многіх стагоддзяў. Мы ўсе ў гэтым удзельнічаем, і сёньня жадаем ўзьнесьці Богу падзяку за гэты надзвычайны дар. Дар на ўсе часы і для ўсіх мужчынаў кожнае расы і культуры. Дар, які аднаўляецца ў Царкве, дзякуючы Божай міласэрнасьці.

Абдымаю вас з вялікай чульлівасьцю, дарагія сьвятары з усяго сьвету. Гэтае абдыманьне, якое ня мае межаў і пашыраецца на прасьвітараў кожнай памеснай Царквы, дасягаючы асабліва вас, дарагія сьвятары, што ёсьць хворыя, самотныя або выпрабаваныя рознымі цяжкасьцямі. Я ў думках таксама і з тымі сьвятарамі, якія з розных прычынаў не выконваюць ужо больш сьвятой таямніцы,— сказаў на заканчэньне Папа.— Малюся за іх і запрашаю вас усіх успомніць іх у малітвах. Няхай дапаможа нам Марыя, Маці нашага сьвятарства. Няхай дапамагаюць нам шматлікія прасьвітары, што былі нашымі папярэднікамі ў гэтай узьнёслай місіі, якая мае вялікую адказнасьць».

Напрыканцы свайго казаньня Сьвяты Айцец Ян Павел II прывітаў у розных мовах сьвятароў, якія прыбылі на свой Юбілей з усяго сьвету. ❑



# Малітва Сьвятога Айца Яна Паўла II у інтэнцыі габрэйскага народу

*Божа Абрагама,*
*Божа прарокаў,*
*Божа Ісуса Хрыста,*
*У Табе знаходзіцца ўсё,*
*Да Цябе цягнецца ўсё,*
*Ты ёсьць мяжою ўсяго.*

Пачуй нашыя малітвы, якія ўзносім за народ габрэйскі, які — беручы пад увагу ягоных продкаў — як і раней для Цябе вельмі дарагі.

Узбуджай у ім нястомна ўсё больш жывое прагненьне да паглыбленьня ў Тваю праўду і Тваю любоў.

Дапамагай яму, каб, дабіваючыся міру і справядлівасьці, ён мог выявіць сьвету моц Твайго бласлаўленьня.

Спрыяй яму, каб зазнаў павагі і любові з боку тых, што яшчэ не разумеюць велічыні цярпеньняў, якія ён перажыў, а таксама тым, хто салідарна, з пачуцьцём узаемнага клопату, разам адчувае боль нанесеных яму ранаў.

Памятай пра новыя пакаленьні, пра моладзь і дзяцей, каб заставаліся нязьменна вернымі Табе ў тым, што складае асаблівую таямніцу іхняга пакліканьня.

Узмацняй усе пакаленьні, каб, дзякуючы іхняму сьведчаньню, чалавецтва зразумела, што Твой збаўчы намер пашыраецца на ўсё чалавецтва і што Ты, Божа, ёсьць для ўсіх народаў пачаткам і канчатковай мэтай. Амін.

# Сустрэча айца А.Надсана з берасьцейскімі грэка-католікамі

*Напрыканцы траўня Беларусь наведаў вядомы грэка-каталіцкі сьвятар з Лондану а. Аляксандр Надсан, Апостальскі візітатар для беларусаў-католікаў у замежжы. Ён быў адным з 270 дэлегатаў з 11 краінаў сьвету, якія прынялі ўдзел у III Міжнародным кангрэсе беларусістаў, які адбыўся 22-24 траўня 2000 году ў Менску. Айцец Аляксандр Надсан — вядомы беларусіст, дырэктар беларускай бібліятэкі імя Ф.Скарыны ў Лондане — кіраваў працай адной з секцыяў — «Хрысьціянства ў Беларусі». У гэтыя дні а. Аляксандр Надсан таксама служыў сьв. Літургію для менскіх грэка-католікаў.*

25 траўня Апостальскі візітатар для беларусаў-католікаў у замежжы па запрашэньні душпастыра для грэка-католікаў Берасьцейскай вобласьці а.Ігара Кандрацьева знаходзіўся ў Берасьці ў душпастырскім цэнтры грэка-каталіцкай парафіі сьв. братоў апосталаў Пятра і Андрэя. Айцец А.Надсан пабываў у фартэцыі, дзе агледзеў мясьціны, зьвязаныя з Уніяй,—пляц, дзе стаяла катэдральная царква сьв. Мікалая, рэшткі былой базыльянскай Петра-Паўлаўскай царквы і езуіцкага калегіюма, а таксама завітаў у гарнізонную праваслаўную царкву (у міжваенны час — касьцёл, а пазьней савецкі клуб), што цяпер адбудоўваецца, настаяцель якой — а. Ігар Умец — ласкава запрасіў на невялікую экскурсію. Пасьля кароткага знаёмства з горадам і агляду гістарычных мясьцінаў а. Аляксандр Надсан меў больш чым 2-гадзінную сустрэчу са студэнтамі і выкладчыкамі Берасьцейскага ўніверсітэту ды прадстаўнікамі грамадскасьці горада, якую наладзіла гарадская Рада Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. Госьць расказаў пра сваю рэлігійную і грамадскую дзейнасьць, пра жыцьцё беларускай эміграцыі і адказаў на пытаньні прысутных.

Увечары, разам з берасьцейскім парахам а. Ігарам Кандрацьевым, айцец Аляксандр Надсан адслужыў сьв. Літургію, падчас якой ён маліўся за мясцовую парафію, а айцец Ігар маліўся за госьця. Дарэчы, як сказаў а. Надсан, гэта была ягоная першая Літургія ў заходняй частцы Беларусі, бо дагэтуль ён служыў толькі ў Менску, Гомелі, Полацку й Магілёве. Сваё казаньне падчас сьв. Літургіі, на якой, дарэчы, прысутнічалі ня толькі берасьцейскія вернікі, але і грэка-католікі з Івацэвічаў, Пінска, Баранавічаў, айцец Аляксандр прысьвяціў разважаньням пра добрага пастыра, пра вялікую неабходнасьць сёньня для нашай Царквы сьвятарскіх пакліканьняў. Шчырай і пранікнёнай малітвай за Бацькаўшчыну словамі гімна «Магутны Божа» і сьпевамі «Многія леты» для а. Аляксандра скончылася малітоўная частка спатканьня. Потым была яшчэ сяброўская сустрэча за гарбатай.

Выдатная асоба айца Аляксандра Надсана выклікала вялікую цікавасьць ва ўсіх вернікаў, асабліва ў моладзі, і яны аж да позьняе ночы задавалі розныя пытаньні госьцю. Напэўна, для ўсіх вернікаў гэтая сустрэча з айцом мітратам Аляксандрам Надсанам запомніцца надоўга, як і ягоная глыбокая вера, бацькоўская цеплыня ды любоў да роднай Царквы і Бацькаўшчыны.

**Ігар Бараноўскі**

*Размову з а. Аляксандрам Надсанам чытайце на с.8-9* ⇨

# У Беларусі спрабуюць распаліць міжнацыянальную і міжканфесійную варожасьць

**У Менску ў мінулым годзе ў выдавецтве ЗАТ «Православная инициатива» выйшла кніга «Война по законам подлости», зьяўленьне якой выклікала вялікі рэзананс у беларускім грамадстве. Гэтае выданьне шырока разышлося па Беларусі праз праваслаўныя кнігарні і кіёскі. Натуральна, у хуткім часе ў гарадскі суд Менску паступіла скарга габрэйскіх арганізацыяў і прыватных асобаў на ЗАТ «Православная инициатива». Габрэйская супольнасьць патрабавала абароны гонару і годнасьці, дзелавой рэпутацыі і матэрыяльнай кампенсацыі за маральную шкоду, зьвязаную са зьяўленьнем у Беларусі гэтага ды іншых антысеміцкіх выданьняў. Справа двойчы разглядалася ў беларускім судзе (апошні раз — 11 траўня 2000 году), аднак, як ні дзіўна, ніякага крыміналу ў ёй не знайшлі.**

*Працяг на с.7* ⇨

# Беларускія грэка-католікі моляцца аб братэрскіх стасунках з габрэямі

**Праблема антысемітызму, адсутнасьці талеранцыі і ўзаемапавагі да іншай культуры і канфесіі што раз мацней дае знаць пра сябе ў некалі спакойнай Беларусі. Чарговы непрыемны розгалас яна набыла якраз у велікодны перыяд гэтага юбілейнага году ў беларускай прэсе і нават у залах суда. Сталася гэта пасьля выхаду ў праваслаўным(!) выдавецтве кнігі «Война по законам подлости».**

**Насуперак такім падыходам беларускія грэка-католікі сёньня сьведчаць пра сваю адкрытасьць і любоў да ўсіх людзей добрае волі, гатоўнасьць разам будаваць новую будучыню — цывілізацыю Любові. Да гэтага яны заклікаюць і ўсіх іншых вернікаў Беларусі.**

**Яскравым адлюстраваньнем гэтае пазіцыі сталася Пасхальнае пасланьне Апостальскага візітатара для грэка-католікаў у Беларусі архімандрыта Сяргея Гаека. Вось невялікі ўрывак з гэтага пасланьня:**

*«Чарговым крокам на шляху велікапоснага духоўнага аднаўленьня стала Пілігрымка Яна Паўла II на Сьвятую Зямлю. Яна была нагодаю для спатканьня Папы з прадстаўнікамі габрэйскага народу і сталася чарговым крокам на шляху габрэйска-хрысьціянскага прымірэньня.*

*23 сакавіка ў Ерусаліме, на сустрэчы з галоўнымі рабінамі, Сьвяты Айцец адзначыў: «Царква цалкам асуджае антысемітызм і ўсялякія формы расізму, бо яны знаходзяцца ў супярэчнасьці з прынцыпамі хрысьціянства».*

*У той самы дзень у сваёй прамове ў мемарыяле Яд Вашэм Сьвяты Айцец сказаў: «Я прыбыў у Яд Вашэм, каб аддаць пашану мільёнам габрэяў, якія, пазбаўленыя ўсяго, а найперш іх чалавечай годнасьці, былі закатаваныя ў часы Халакосту».*

*Напрыканцы сваёй прамовы ён заклікаў абодва бакі да будаўніцтва новых узаемных стасункаў: «Будуйма новую будучыню, у якой больш ня будзе антыгабрэйскіх настрояў сярод хрысьціянаў і антыхрысьціянскіх — сярод габрэяў, але хутчэй будзе ўзаемная пашана, належная тым, якія пакланяюцца адзінаму Госпаду і Стваральніку».*

*У тыя дні Пілігрымкі Сьвятога Айца ў Ізраіль мы маліліся ў нашай Беларускай Грэка-Каталіцкай Царкве за габрэйскі народ, узгадваючы тых габрэяў, якія паходзяць з Зямлі Беларускай, што сталіся ахвярамі нацызму і сталінізму. У гэтым часе, калі мы сьвяткуем Вялікдзень, хочам у духу навукі Папы Яна Паўла II маліцца аб братэрскіх стасунках паміж габрэямі і хрысьціянамі.*

*[...] Умілаваныя ў Хрысьце Браты, Сёстры, Сябры! У Васкрасеньні Госпада нашага Ісуса Хрыста будзем імкнуцца набіраць сілы для творчай прысутнасьці ў жыцьці нашага народу. Будзем імкнуцца несьці нязгасную надзею і духоўную дапамогу ўсім прыгнечаным, пакрыўджаным, тым, хто церпіць...»*

*(З Пастырскага Слова Апостальскага візітатара для грэка-католікаў у Беларусі на сьвята Пасхі Хрыстовай Юбілейнага Году — 2000-га)*

## У Беларусі

***

16 траўня ў палескім мястэчку Янава ў мясцовай рыма-каталіцкай парафіі адбылося традыцыйнае сьвята ў гонар езуіцкага місіянера Андрэя Баболі, сьвятога мучаніка за еднасьць хрысьціянаў, які ў 1657 годзе падчас маскоўскай экспансіі на Беларусь быў жорстка закатаваны казакамі. Упершыню сёлета на сьвята атрымалі запрашэньне грэка-каталікі з Берасьцейшчыны.

Узначальваў сьв. Літургію біскуп К.Велікаселец, а сярод сьвятароў, якія яму саслужылі, быў душпастыр для грэка-каталікаў Берасьцейскай вобласьці а. Ігар Кандрацьеў.



У часе сьв. Імшы, якая адбывалася пабеларуску і па-польску, бо прысутнічала шмат пілігрымаў з Польшчы, а. І.Кандрацьеў чытаў Евангельле па-беларуску.

Сумеснае ўшанаваньне каталікамі абодвух абрадаў памяці сьв. Андрэя Баболі — каталіцкага апекуна Палесься, які аддаў жыцьцё дзеля ўмацаваньня ў гэтым краі Уніі,— мае свае даўнія карані. Адразу пасьля забойства сьвятога ягоным целам першы заапекаваўся ўніяцкі парах з Янава. Першыя дазнаньні аб мучаніцтве і цудах сьв. Андрэя дзеля ягонай кананізацыі праводзіў уніяцкі біскуп Пінска-Тураўскі Парфіры Кульчыцкі, а біскуп гэтай самай епархіі, Гедэон Гарбацкі, пасьля часовай забароны езуіцкага ордэна апекаваўся мошчамі мучаніка ў пінскім езуіцкім храме сьв. Станіслава, які стаў тады ўніяцкай катэдрай. Падчас урачыстасьцяў кананізацыі сьв. Андрэя Баболі ў Вялікдзень 1938 году ў базіліцы сьв. Пятра сярод біскупаў былі два біскупы славяна-візантыйскага абраду — расеец Аляксандр Яўрэінаў і Апостальскі візітатар славяна-візантыйскіх парафіяў на Валыні і Палесьсі Мікалай Чарнецкі, а таксама шматлікае духавенства з усходніх калегіяў у Рыме. У першы дзень трыдыюма ў гонар праслаўленьня сьвятога біскуп М.Чарнецкі адправіў візантыйскую Літургію ў царкве *al Gésu*, дзе раней знаходзіліся мошчы сьв. Андрэя. Яшчэ больш шырокі ўдзел усходніх каталікаў быў ва ўрачыстасьцях, што адбываліся ў тагачаснай Польшчы ў гонар сьв. Андрэя Баболі падчас пераносу ягоных мошчаў праз Кракаў у Варшаву. Менавіта перад вайной была закладзена традыцыя сумеснага сьвяткаваньня каталікамі абодвух абрадаў дня памяці гэтага сьвятога, якая сёньня можа зноў аднавіцца. ❑

# Экуменічны ўспамін навамучанікаў XX стагоддзя ў рымскім Калізеі

*Апоўдні, у нядзелю 7 траўня 2000 году, Папа Ян Павел II адгаварыў з вернікамі, якія сабраліся на плошчы сьвятога Пятра, марыйную малітву велікоднага перыяду «Уладарка Неба». У сваёй кароткай прамове перад малітвай Сьвяты Айцец гаварыў пра экуменічнае набажэнства, якое мелася адбыцца ўвечары пад ягоным старшынствам у рымскім Калізеі, каб аддаць пашану сьведкам веры XX стагоддзя.*

Праз стагоддзе, якое ўжо на зыходзе, сказаў між іншым Папа,— прайшлі цёмныя хмары, але сярод іх яснеюць надзвычайныя сьветачы. Гэта хрысьціяне розных веравызнаньняў, расаў і ўзростаў — мужчыны і жанчыны, якія склалі сьведчаньне веры ў часы пераследаваньняў, у турмах і перад абліччам рознага роду абмежаваньняў. Многія з іх пралілі кроў, складаючы такім чынам сьведчаньне вернасьці Хрысту, Евангельлю і Царкве.

Папа падкрэсьліў далей у сваёй прамове, што ўспамін сьведкаў веры набірае поўнае значэньне ў перажываным велікодным перыядзе.

Невыпадкова выбралі дату і месца гэтага экуменічнага набажэнства. Выбранае месца — рымскі Калізей — гаворыць само за сябе, сказаў Папа. Калізей нагадвае нам пра пачаткі хрысьціянства, калі многія пасьлядоўнікі Хрыста склалі сваё велічнае сьведчаньне, стаўшыся пасевам новых вернікаў.

Сьвяты Айцец падкрэсьліў неабходнасьць нагадваць сьвету пра гераічнае сьведчаньне веры нашага стагоддзя. Гэтая памяць рыхтуе будучыню, закладаючы ў новае тысячагоддзе фундамент надзеі. «Новыя пакаленьні,— падкрэсьліў Папа,— павінны ведаць, як дорага каштавала вера, якую атрымалі ў спадчыне, каб мець здольнасьць з удзячнасьцю ўзьняць полымя веры і асьвятліць ім новае стагоддзе і новае тысячагоддзе».

Ян Павел II асабліва адзначыў экуменічны характар набажэнства ў рымскім Калізеі. Найбольш пераканаўчым, нагадаў Папа, зьяўляецца менавіта экуменізм сьвятых мучанікаў. Супольнасьць сьвятых гаворыць галасьней, чым усе падзелы. Любоў аж да ахвяраваньня ўласным жыцьцём ачышчае Цэркву ад усяго таго, што складае перашкоду ў дасягненьні поўнай еднасьці.

Экуменічнае набажэнства ў рымскім Калізеі распачалося падвечар 7 траўня, а 18-й гадзіне. Увекавечваньне мучанікаў у часе гэтага набажэнства ахоплівала 8 групаў сьведкаў веры прамінаючага стагоддзя: закатаваных хрысьціянаў камуністычнага рэжыму ў былым СССР, ахвяраў камунізму і нацызму, хрысьціянаў, якія аддалі жыцьцё за веру Хрыстовую ў Азіі і Акіяніі, ахвяраў нянавісьці да хрысьціянскай веры і Царквы ў Іспаніі, Мексіцы, Афрыцы, на Мадагаскары і ў Амерыцы. Былі ўвекавечаныя таксама мучанікі, гераічнае сьведчаньне якіх вядомае толькі Богу. Кожны раз, пасьля таго, як называліся групы мучанікаў і зачытваліся сьведчаньні пра іх, запальвалася сьвечка пры іконе Хрыста.

Як заўважыў старшыня Камітэту Вялікага Юбілею-2000 кардынал Ражэ Этчэгэрэй, успамін сьведкаў веры ня варта ўспрымаць як уступную ступень да кананізацыі. Гэта найперш жаданьне аддаць пашану сьведкам Хрыста, якія ў стагоддзі, адзначаным рознага роду ідэалогіямі і таталітарызмам, склалі найбольшае сьведчаньне веры.

Падчас гэтай экуменічнай Літургіі было прачытана некалькі дзясяткаў канкрэтных сьведчаньняў пра тых, што аддалі сваё жыцьцё ў нашым стагоддзі за Хрыста.

# Вера і Царква пасьля камунізму

Цэнтр «Пастырскі форум» (Аўстрыя), мэтаю якога ёсьць пастырская апека і падтрымка памесных Цэркваў у Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропе, у 1997-1998 гг. праводзіў збор інфармацыі пра стан Царквы і разьвіцьцё веры ў гэтым рэгіёне. Апытаньні праводзіліся ў 10 краінах: Літве, Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Славеніі, Харватыі, Украіне, Венгрыі, Румыніі, а таксама на тэрыторыі былой ГДР. У кожнай краіне былі апытаныя 1000-1200 чалавек ва ўзросьце ад 18 да 65 гадоў. Інфармацыя сталася асновай для навуковых дасьледаваньняў, апублікаваных у трох тамах пад назваю «Бог пасьля камунізму». У студзені наступнага году чакаецца выхад чацьвёртага тому дасьледаваньня.

З дасьледаваньняў вынікае, што ў былой ГДР, а таксама ў Чэхіі вернікамі сябе лічаць ня больш за 20% рэспандэнтаў. Рэгулярна ў набажэнстве бярэ ўдзел толькі 5%. Дырэктар цэнтру «Пастырскі форум» Поль Цуленэр, выкладчык Пастырскага багаслоўя ў Венскім універсітэце, лічыць, што менавіта ва Ўсходняй Нямеччыне і Чэхіі ў найбольшай ступені праяўляюцца плады «масавай дэхрысьціянізацыі».

У Харватыі і Польшчы, наадварот, 80% апытаных адказалі, што вераць у Бога. У Польшчы ў нядзельнай сьв. Імшы заўсёды бяруць удзел больш за 40% рэспандэнтаў, а ў Харватыі — трохі болей за 20%.

У Венгрыі вернікамі сябе назвалі каля паловы рэспандэнтаў, 30% адказалі, што зусім ня вераць у Бога.

Паводле аналізу Поля Цуленэра, у большай ступені нявер'ю паддаліся людзі сярэдняга веку, г. зн. тыя, хто нарадзіўся, вырас і атрымаў адукацыю ў эпоху сацыялізму. А вось для многіх сталых людзей, якія ў дзяцінстве прайшлі катэхізацыю, Царква і вера ў Бога зноў пачынае набываць важнае значэньне.

# Канстанцінопальскі Патрыярхат і РПЦ жадаюць міру і кананічнага адзінства, але праблемы абвастраюцца

*У Жэневе прайшлі перамовы паміж дэлегацыямі Канстанцінопальскага Патрыярхату і Рускай Праваслаўнай Царквы.*

Бакі дамовіліся працягваць кансультацыі адносна магчымасьцяў аднаўленьня юрыдычных правоў Эстонскай Праваслаўнай Царквы Маскоўскага Патрыярхату «на гістарычна прыналежныя ёй храмы і іншую царкоўную маёмасьць».

У сувязі са сконам Патрыярха Дзьмітрыя — зьверхніка Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (УАПЦ), якая, на думку РПЦ, знаходзіцца ў расколе, удзельнікі перамоваў выказалі заклапочанасьць ускладненьнем царкоўнай сітуацыі на Ўкраіне і дамовіліся пра каардынацыю сумесных дзеяньняў «з мэтаю дасягненьня міру і кананічнага адзінства ў царкоўным жыцьці на Ўкраіне». Між тым мітрапаліт Канстанцін — ерарх Канстанцінопальскага Патрыярхату, які ўзначальвае ўкраінскія праваслаўныя прыходы ў Канадзе і ЗША, уступіў у кананічнае кіраваньне Украінскай Аўтакефальнай Царквою. Яе ранейшы кіраўнік, які памёр у лютым г. г., незадоўга да сваёй сьмерці пакінуў запавет пра абраньне наступным кіраўніком УАПЦ мітрапаліта Канстанціна, каб такім чынам усталяваць кананічную сувязь УАПЦ з Усяленскім праваслаўем у асобе Канстанцінопальскага Патрыярхату.

Як адзначаюць назіральнікі, уступленьне ерарха Канстанцінопальскага Патрыярхату ў кананічнае кіраваньне УАПЦ, больш за 900 грамадаў якой сёньня дзейнічае на тэрыторыі Украіны (пераважна на Галічыне) і якую Маскоўскі Патрыярхат уважае за неад'емную частку сваёй кананічнай тэрыторыі, прывядзе да чарговага рэзкага пагаршэньня стасункаў паміж РПЦ і Канстанцінопальскай Царквой. У 1996 годзе Канстанцінопальскі Патрыярхат падтрымаў Эстонскую Апостальскую Праваслаўную Царкву, якая вырашыла аддзяліцца ад РПЦ. Такая падтрымка прывяла да поўнага спыненьня на некалькі месяцаў кананічных сувязяў паміж гэтымі Патрыярхатамі. Чакаюць, што наступствы апошняга рашэньня Канстанцінопальскага Патрыярхату будуць яшчэ больш сур'ёзныя.

Сёньня на Ўкраіне, апрача УАПЦ, дзейнічае таксама каля 2200 грамадаў Украінскай Праваслаўнай Царквы Кіеўскага Патрыярхату. Маскоўскі Патрыярхат мае на Ўкраіне каля 6250 грамадаў.

# Ізноў пра «ўніяцкае пытаньне»...

*Кіраўнік Экуменічнага інстытуту Люблінскага Каталіцкага ўніверсітэту прафесар а. Вацлаў Грыневіч заклікаў уніятаў (грэка-католікаў) пачаць «шчыры дыялог» з Праваслаўнай Царквой.*

Вядомы польскі каталіцкі багаслоў, дасьледчык тэалагічнай думкі старажытнай Русі а. В.Грыневіч зьяўляецца сябрам Міжнароднай зьмяшанай праваслаўна-каталіцкай камісіі, якая была ўтворана ў 1979 годзе. Са сваім зваротам да католікаў усходняга абраду ён выступіў напярэдадні чарговага паседжаньня гэтай камісіі, якая будзе абмяркоўваць так званае «ўніяцкае пытаньне». На зьдзіўленьне многіх, і найперш грэка-католікаў, а. Грыневіч пагадзіўся з тэзісам Канстанцінопальскага Патрыярха Варфаламея I пра тое, што ўніяцтва — гэта «штучны твор», які ўяўляе сур'ёзную перашкоду для экуменічнага дылогу паміж праваслаўнымі і католікамі. «Грэка-католікі маюць права на існаваньне,— сказаў а. Вацлаў Грыневіч у інтэрвью *ENI*,— аднак яны павінны ўлічваць пункт гледжаньня абодвух бакоў — як каталіцкага, так і праваслаўнага».

Згадаўшы гісторыю падпісаньня Берасьцейскай царкоўнай Уніі, прафесар Экуменічнага інстытуту Люблінскага Каталіцкага ўніверсітэту заявіў, што Унія 1596 году, у выніку якой Кіеўскі мітрапаліт і яшчэ пяць біскупаў прыядналіся да Каталіцкай Царквы, была «зьневажальнай» для праваслаўных, бо яна адлюстроўвала думку, паводле якой «па-за Рымскай Царквой ня можа быць збаўленьня». Прафесар падкрэсьліў, што ён заўсёды крытыкаваў і будзе крытыкаваць прадстаўнікоў праваслаўя (роўна як і ўсіх іншых хрысьціянаў, што знаходзяцца «ў палоне стэрэатыпаў»), якія называюць католікаў «ератыкамі». У той жа час, на яго думку, выступ Патрыярха Варфаламея ў Варшаве ў студзені гэтага году ўтрымліваў цалкам абгрунтаваныя тэзы, якія, на жаль, былі няправільна перададзены прэсай і — як вынік — выклікалі негатыўную рэакцыю грэка-католікаў. Каментуючы словы праваслаўнага Патрыярха, а. В.Грыневіч настойваў, што той ніколі не называў грэка-католікаў «фальшывай Царквою», а проста заўважыў, што іх існаваньне застаецца перашкодай на шляху экуменічнага дыялогу. *(Пра неабачлівыя выказваньні Патрыярха і рэакцыю на іх грэка-каталіцкіх ерархаў глядзі ў мінулым нумары «Царквы»).*

Міжнародная зьмяшаная камісія па багаслоўскім дыялогу паміж праваслаўнымі і католікамі часова прыпыніла свае паседжаньні ў 1989 годзе з прычыны абвастрэньня адносінаў паміж дзвюма Цэрквамі з-за «ўніяцкага пытаньня». Паседжаньні меліся аднавіцца ў 1998 годзе ў Балтыморы (ЗША), але вайсковая аперацыя *NATO* ў Югаславіі ізноў перанесла аднаўленьне дыялогу на пазьнейшы тэрмін. Чакаецца, што камісія здолее сабрацца разам у Балтыморы ў чэрвені-ліпені гэтага году, і польскі экуменіст а. Вацлаў Грыневіч павінен удзельнічаць у гэтым дыялогу. У той жа час для ўсіх грэка-католікаў зьяўляецца дзіўным і незразумелым, што пра іх зьбіраюцца гаварыць без іх — у склад зьмяшанай камісіі не ўключаны ні адзін прадстаўнік Грэка-Каталіцкай Царквы.

Грэка-католікі лічаць, што ніякіх сур'ёзных канфліктаў з праваслаўнымі у іх ні на Ўкраіне, ні ў Славакіі сёньня практычна не існуе, а «ўніяцкае пытаньне» — хутчэй надуманае з прычыны няведаньня сапраўднага стану рэчаў.

## У Беларусі

***

**24 траўня з нагоды сьвята Славянскага пісьменства ў гонар асьветнікаў славянаў роўнаапостальных сьв. Кірылы і Мятода ў праваслаўным Сьвята-Духавым катэдральным саборы была адслужана ўрачыстая Літургія, якую служыў мітрапаліт Філарэт і праваслаўны япіскап Люблінскі Абэль. У гэты ж дзень на месцы, дзе знаходзіўся першы вядомы ў Менску хрысьціянскі храм, быў адслужаны малебен у памяць пра сьвятых Кірылу і Мятода, якія далі славянам азбуку. Гэтыя сьвятыя аднолькава шануюцца як у праваслаўных, так і ў католікаў абодвух абрадаў. Каталіцкая Царква ня так даўно абвясьціла сьв. Кірылу і Мятода патронамі Еўропы. Таму на ўрачыстай Літургіі, малебне і іншых урачыстасьцях у гонар асьветнікаў славянаў прысутнічалі Апостальскі візітатар для грэка-католікаў у Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек і менскія грэка-каталіцкія сьвятары. Удзельнічалі высокія дзяржчыноўнікі ды прадстаўнікі дыплапатычнага корпусу. Ля памятнай дошкі ў гонар сьв. Кірылы і Мятода, якая ўстаноўлена на вуліцы, што носіць іхняе імя, былі ўскладзены кветкі ад удзячных вернікаў Беларусі.** ❑

***

**25-26 траўня ў Менску адбыліся VI Міжнародныя навуковыя Кірыла-Мятодаўскія чытаньні, арганізаваныя Беларускім універсітэтам культуры, Тэалагічным факультэтам ЕГУ, Хрысьціянскім адукацыйным Фондам імя сьв. Мятода і Кірылы пры падтрымцы Міністэрства культуры. З уступным словам выступіў кіраўнік Беларускага Экзархату Рускай Праваслаўнай Царквы мітрапаліт Філарэт, а таксама міністр адукацыі У.Стражаў, рэктар Беларускага ўніверсітэту культуры Ядвіга Грыгаровіч, госьць з Польшчы япіскап Люблінскі Абэль і інш. Дарэчы, міністр адукацыі ў сваёй прамове адзначыў, што ў новай канцэпцыі адукацыі ў Беларусі адбудуцца карэктывы — яна будзе абапірацца на веру, і ў гэтым будуць яе новыя прыярытэты. Удзельнікі чытаньняў змаглі паслухаць шэраг дакладаў, сярод іх — даклад вядомага беларускага гісторыка, прафесара Анатоля Грыцкевіча, які вызнае сябе грэка-католікам, а таксама даклад Апостальскага візітатара для грэка-католікаў у Беларусі, доктара багаслоўя а. Сяргея Гаека на тэму «Кірыла і Мятод — айцы славянскай тэалогіі».**

**Чытаньні сталі чарговым крокам ня толькі ў дасьледаваньні спадчыны славянскіх асьветнікаў Кірылы і Мятода, але і яшчэ адной магчымасьцю для міжканфесійнага спатканьня і экуменічнга дыялогу.** ❑

*Інфармацыя падрыхтавана паводле паведамленьняў Агенцтва рэлігійнай інфармацыі (АРІ) і іншых прэсавых крыніцаў.*

Падпісны індэкс 63205


Старадаўні дуб на бабровіцкіх могілках

# Жывая памяць пра Унію

7 траўня, у сваё парафіяльнае сьвята, вернікі Івацэвіцкай грэка-каталіцкай парафіі Жыровіцкай іконы Божай Маці зьдзейсьнілі пілігрымку ў в.Бабровічы. Гэтая вёска, што знаходзіцца ў вельмі маляўнічым месцы, каля вялікага і прыгожага Бабровіцкага возера, мае разам з тым сваю вельмі сумную і трагічную гісторыю. Падчас апошняй вайны, у верасьні 1942 году, нямецкія карнікі поўнасьцю спалілі Бабровічы. Такі самы лёс напаткаў і навакольныя вёскі — Вяда, Тупічыцы і Красьніца. Фашысты зьнішчылі каля тысячы чалавек. Людзі хаваліся за возерам, у балотах, але нямецкая куля знайшла іх і там. Тады змаглі ўратавацца толькі некалькі чалавек. Пасьля вайны адныя Бабровічы змаглі адрадзіцца, паўстаць з попелу. Ды й тое на іншым месцы. А там, дзе раней стаялі вясковыя хаты, цяпер поле ды некалькі дрэваў, што ціха шумяць па бязьвінна забітых. Памяць пра трагічныя падзеі ў гэтых вёсках увекавечана ў мемарыяле «Хатынь», а таксама ў кнізе Я.Брыля, У.Калесьніка і А.Адамовіча «Я з вогненнай вёскі». Савецкія ўлады паставілі на месцы спаленых вёсак самотныя помнікі-абеліскі паводле тыпавогу стандарту. А па-хрысьціянску памяць пра загінулых зусім не была ўшанавана. Нават на могілках, дзе знайшлі спачын парэшткі забітых, не было крыжа!

Для грэка-каталікоў вёска Бабровічы мае асаблівае значэньне. Менавіта тут, у адрэзаным ад сьвету лясным палескім краі, у міжваенны час быў адзін з найбольш чынных асяродкаў па адраджэньні Уніі. Тут існавала ўніяцкая парафія сьв. Параскевы Пятніцы, якой кіраваў айцец Баляслаў Пачопка, вядомы беларускі дзеяч Заходняй Беларусі. Была тут і свая


Сьвятая Літургія на бабровіцкіх могілках 7.05.2000.

царква, у якой былі ахрышчаны жыхары Бабровічаў і многіх навакольных вёсак. Але царква гэтая згарэла разам з вёскай. Сёньня на месцы спаленай царквы стаіць памятны знак. Таксама была спалена і плябанія, што знаходзілася ля могілак. Ужо пасьля вайны адзін з ацалелых вяскоўцаў знайшоў на месцы дома, дзе жыў айцец Б.Пачопка разам са сваёй вялікай сям'ёй, крыж, і, як самую дарагую і каштоўную рэліквію, захоўваў яго доўгія гады. Айца Баляслава вельмі любілі ў вёсцы. Паводле словаў людзей, якіх мы сустрэлі ў Бабровічах, ён быў вельмі добры і спагадлівы чалавек. І сёньня, праз дзесяцігоддзі, тыя нешматлікія вяскоўцы, што выжылі ў часы ваеннага ліхалецьця, з вялікай пяшчотай успамінаюць айца Пачопку. І калі мы паказвалі ім адшуканы ў архівах фотаздымак гэтага сьвятара, яны са сьлязьмі на вачах цалавалі яго воблік.

Намаганьнямі івацэвіцкіх парафіянаў і пры дапамозе мясцовых жыхароў праз 55 гадоў пасля сканчэньня той страшнай вайны, на невялікім узгорку, па другі бок Бабровіцкага возера, там, дзе стаялі вёскі Вяда і Тупічыцы, быў усталяваны памятны крыж. Другі крыж быў устаноўлены на бабровіцкіх могілках, менавіта на тым самым месцы, дзе пахаваныя парэшткі забітых вяскоўцаў. Тут, ля крыжа, адбылася Сьвятая Літургія ў памяць аб ахвярах вайны, якую служыў душпа-


На месцы вогненнай вёскі Вяда Івацэвіцкага р-ну Берасьцейскай вобл., 7.05.2000.

# У Беларусі спрабуюць распаліць міжнацыянальную і міжканфесійную варожасьць

⇨ Заканчэньне са с.3

Пра сутнасьць кнігі «Война по законам подлости», як нам здаецца, яскрава сьведчаць ніжэйпрыведзеныя цытаты, якія, спадзяемся, дазволяць чытачу самастойна разабрацца, што хацелі давесьці вернікам аўтары і выдаўцы: «Народ, які спавядае рэлігію, прапаведуе зладзейства, махлярства, забойства, зьбіваньне цэлых народаў — зьяўляецца па сутнасьці злачынным. Тым больш, іх рэлігійная злачыннасьць асьвечана самім іх Богам. Габрэі ня могуць быць раўнапраўнымі з хрысьціянскім народам» (с.131). І ў гэткім духу — на працягу паўтысячы старонак.

Як сьцьвярджае генеральны дырэктар крамы «Православная книга» і ЗАТ «Православная инициатива» Уладзімір Чартовіч, кіраваныя ім прадпрыемствы паўсталі з блаславеньня мітрапаліта Філарэта. У інтэрв'ю праваслаўнай газеце «Преображение» (№ 5, 2000, с.10) У.Чартовіч сьцьвярджае: «Нас падтрымлівае адміністрацыя Прэзідэнта, гарадскія ўлады. Адзіная праблема — гэта нападкі сіяністаў». Вось што думае аўтар прыведзенага выказваньня адносна пададзенага на яго зыску габрэйскіх арганізацыяў Беларусі: «Вельмі шкада, што СБГГА [Саюз беларускіх габрэйскіх грамадскіх арганізацыяў — рэд.] рашылася на гэты крок. Шкада, што яны не ўлічылі, што ўсе матэрыялы гэтай кнігі былі даўно прапанаваны на ўсеагульны агляд. Дадзеная кніга адно прыводзіць неабвяргальныя факты гісторыі, а не прапагандуе антысемітызм. [...] За намі Законы, Канстытуцыя, Грамадзянскае заканадаўства, грамадскасьць і, безумоўна,— Праўда».

Але гэта не адзіны прыклад. Як высьветлілася, у сталічнай краме «Православная книга» (гэта падразьдзяленьне ЗАТ «Православная инициатива»), іншых кніжных кіёсках пры праваслаўных цэрквах Беларусі можна свабодна набыць і іншыя антысеміцкія ды, таксама, антыкаталіцкія выданьні. Сёньня, у прыватнасьці, можна свабодна набыць кнігу М.Міронава «О еврейском фашизме» (яна — без пазначэньня выходных зьвестак), дзе сьцьвярджаецца наступнае: «Не ад таго ў Расеі дрэнна, што з яе зьехалі жыды, Расеі дрэнна ад нязьехаўшых жыдоў. Расеі дрэнна ад таго, што ня ўсе жыды з яе зьехалі» (с.9); «Калі бяднее, галадуе, вымірае рускі народ, і на гэтым багацее, тлусьцее і жыруе габрэйскі народ — гэта і ёсьць габрэйскі фашызм» (с.15). Іншы падобны твор, што прапануецца праваслаўным вернікам Беларусі,— антыкаталіцкага зьместу: «Римо-католичество и экуменизм» Г.Аляксеева. Пра аўтара яе нічога невядома, але нельга не адзначыць удзячнасьць аўтара, выказаную ў прадмове, «сьвятару Максіму Казлову, дацэнту Маскоўскай духоўнай акадэміі, які прачытаў рукапіс брашуры і ўнёс шэраг істотных заўвагаў у яе зьмест». Асноўная ідэя кнігі выказана адным сказам, які, дарэчы, выдзелены тлустым шрыфтам: «Рыма-каталіцтва зьяўляецца антыхрысьціянскай рэлігіяй, якая знаходзіцца пад кантролем Сатаны і вядзе барацьбу супраць Бога (Найсьвяцейшай Тройцы і Хрыста) і Ягонага Адкрыцьця (Новага Запавету), асноватворчага дзеля стварэньня сусьветнай універсальнай рэлігіі і царквы» (с.21).

Магчыма, можа й ня варта было б зьвяртаць столькі ўвагі на гэтыя «творы», але ж усё гэта выдаюць людзі, якія называюць сябе праваслаўнымі хрысьціянамі. На ўсё гэта моўчкі глядзіць кіраўніцтва Рускай Праваслаўнай Царквы ў Беларусі, і, больш таго, яно нават спрыяе распаўсюджваньню падобнай пісаніны! Гісторыя сьведчыць, што дзяржаву і грамадства, якія моўчкі глядзяць на падобныя зьявы, чакае нялепшая будучыня.

**Вікенці Верамяюк**

---

стыр для грэка-католікаў Берасьцейскай вобласьці айцец Ігар Кандрацьеў. Вернікі з Івацэвічаў разам з мясцовымі жыхарамі шчыра памаліліся за бязьвінна забітых продкаў.

Потым былі асьвечаны магілы памёрлых, а затым адбылася сяброўская вячэра. Жыхары Бабровічаў дзякавалі айцу Ігару і вернікам Івацэвіцкай грэка-каталіцкай парафіі і вельмі прасілі прыязджаць яшчэ. Нехта выказаў прапанову аднавіць у Бабровічах уніяцкую парафію, і гэта адразу знайшло станоўчы водгук у мясцовых жыхароў.

Калі ладзілася гэтая пілігрымка ў Бабровічы, мала хто спадзяваўся на такую рэакцыю мясцовых людзей — мінула ўсё ж шмат гадоў з таго часу, калі апошні раз тут правілася Сьвятая Літургія сьвятаром-уніятам, ды й мала хто вы жыў з той дастаткова вялікай уніяцкай парафіі (больш за 1000 вернікаў) пасьля трагедыі, якая адбылася тут у вайну. Хто ведае,— можа, Богу будзе патрэбна, каб зноў адрадзілася ў Бабровічах парафія. Будзем верыць!

**Зьміцер Ятчэня**
*г.Івацэвічы Берасьцейскай вобл.*

---

## ХРОНІКА

***

Другі год запар у Пінску ў Дзень памяці ахвяраў Чарнобыльскае катастрофы (26 красавіка) праходзіць жалобнае шэсьце, напрыканцы якога ў воды Піны яго ўдзельнікі спускаюць памінальны вянок. Як і мінулы раз, самы актыўны ўдзел у арганізацыі жалобных мерапрыемстваў бяруць грэка-католікі. На жаль, гэты раз не абыйшлося без складанасьцяў — перад самым пачаткам жалобнага шэсьця прадстаўнік уладаў забараніў адміністратару Пінскай грэка-каталіцкай парафіі сьв. Кірылы Тураўскага а. І.Кандрацьеву адпраўляць любыя набажэнствы на вуліцы. Толькі дзякуючы зычлівасьці пробашча Пінскай катэдры ўдзельнікі шэсьця атрымалі магчымасьць зайсьці і памаліцца ў храме за тых, хто памёр і хто пакутуе ад наступстваў гэтай жудаснай катастрофы XX стагоддзя. ❑



***

30 красавіка 2000 году ў Маладэчне ўпершыню шырока адзначалася сьвята мясцовай грэка-каталіцкай парафіі Хрыста Чалавекалюбцы. Літургію служыў а. Андрэй Абламейка з Менску, які абслугоўвае гэтую парафію, разам з другім менскім грэка-каталіцкім сьвятаром а. Казімірам Ляховічам. На парафіяльнае сьвята маладэчанскіх грэка-католікаў, каб разам уславіць уваскрослага Госпада, прыйшла таксама група мясцовых рыма-католікаў. Шмат вернікаў было да сьв. Прычасьця. У капліцы ў гэты дзень быў урачыста ўстаноўлены крыж, які паходзіць са старой уніяцкай царквы з ваколіцаў Маладэчна. Пасьля сьвяточнай Літургіі ўдзельнікі хору «Бацькаўшчына» з Горадні далі цудоўны канцэрт для мясцовых вернікаў. ❑

***

У Магілёве 17 траўня 2000 году пяцёра дзетак — 3 дзяўчыны і 2 хлопцы — упершыню прыступілі да сьвятога Прычасьця. На працягу ўсяго году яны займаліся ў нядзельнай школцы пры грэка-каталіцкай парафіі Бялыніцкай іконы Божай Маці. Усяго разам з імі ў гэтым годзе займалася каля 40 дзетак. Дзякуючы дзецям, пэўную катэхізацыю прайшлі і іхныя бацькі. Цяпер заняткі ў школцы скончыліся і дзяцей чакае летнік. ❑

# Сьвятар, які сьведчыць любоў да Бога і Бацькаўшчыны

***Размова ў рэдакцыі «Царквы» з Апостальскім візітатарам для беларусаў-католікаў у замежжы***
àéöî ì -ì ³ò ðàò àì Àëÿêñàí äðàì ***НАДСАНАМ***

***— Айцец Аляксандр! Чытачам «Царквы», пэўна, было б цікава, каб Вы напачатку трошкі расказалі пра сябе. Калі Вы сталі ўніятам? Ці гэта быў хрост у маленстве, ці — сьвядомы выбар у дарослым узросьце? Які быў Ваш шлях да сьвятарства?***



— Уніяцтва — гэта быў сьвядомы выбар, безумоўна. Нарадзіўся я 74 гады таму на Нясьвіжчыне і быў хрышчаны ў праваслаўнай царкве. Вялікай рэлігійнай асьветы ў мяне не было. Калі я пачаў сьвядома цікавіцца верай, калі прыйшоў час і Бог прымусіў мяне задумацца — у мяне быў адзіны выбар — уніяцтва. Найбольшы ўплыў на мяне, калі гаварыць пра таго, хто стаўся прыладай Боскай ласкі для мяне, стаўся айцец Часлаў Сіповіч, пазьней — першы беларускі біскуп ад часоў скасаваньня Уніі ў 1839 годзе. Ён быў пастаўлены біскупам добрым папам Янам XXIII 4 жніўня 1960 году. Гэта быў сьвятар, адметны ад іншых, і вельмі адкрыты чалавек. Вельмі важна было, што ён быў сьвядомым беларусам — з марыянскага кляштару ў Друі. Ён быў яшчэ малады сьвятар, і, як асоба, мяне вельмі ўразіў.

Таксама на мяне моцна паўплываў айцец Леў Гарошка, які ўзначальваў Усходне-каталіцкую місію для беларусаў у Францыі і выдаваў там часопіс «Божым шляхам». Гэта быў вельмі працавіты чалавек, які заўсёды, як мог, імкнуўся сьведчыць любоў да Бацькаўшчыны, да Бога. Ён вызначаўся адкрытасьцю да ўсіх як сьвятар Божы незалежна ад веры і нацыянальнасьці. І гэтаму я вучыўся ў гэтых людзей. Да гэтага я такіх людзей не сустракаў. Гэта было для мяне вельмі важна.

Разам з многімі беларусамі, якія ваявалі ў арміі Андэрса, у 1946 годзе я апынуўся ў Англіі, дзе далучыўся да беларускіх грэка-каталікоў. Тады некаторыя пачалі будаваць аўтакефальную Беларускую Праваслаўную Царкву. Іншыя, праўда, іх было менш, як і я, пачувалі сябе каталікамі і зрабілі сьвядомы выбар, каб будаваць Грэка-Каталіцкую Царкву. Яна малая, але яна была ад самага пачатку беларуская.

Я тады быў яшчэ маладым студэнтам, пайшоў на ўнівэрсітэт у Лондане, хацеў быць беларускім Эйнштэйнам, матэматыкам вялікім. Але Эйнштэйн з мяне ня выйшаў. Неяк Бог так пакіраваў — ты хочаш адно, а Ён кажа не, ты мусіш рабіць іншае. Так урэшце мяне паклікаў Бог быць сьвятаром.

У 1953 годзе я выехаў з Англіі ў Рым для вучобы ў старажытнай Грэцкай калегіі. Магчыма, вы чулі, пры Саветах пісалі, што такі «фашыст Надсан» вучыўся ў Русікуме, як страляць, і іншае глупства. У Рыме сапраўды ёсьць расейская калегія — Русікум,— але я там ніколі ня быў!

***— Можа, Вы раскажаце пра Грэцкую калегію і Вашую вучобу ў ёй?***

— Гэта калегія ў Рыме нашага, грэцкага, ці інакш — візантыйскага абраду. Яна была заснавана ў 1576 годзе папам Рыгорам XIII для грэкаў і іншых усходніх нацыяў, сярод якіх былі і беларусы. Пасьля Берасьцейскае Уніі ўсе нашыя выдатныя кіраўнікі Ўніяцкай Царквы вучыліся ў Грэцкай калегіі: мітрапаліты Руцкі, Корсак, Сялява, Календа, архімандрыты Базыльянскага закону. Каля 200 студэнтаў з Беларусі вучыліся ў Грэцкай калегіі ў XVII-XVIII ст. Так што калі я пайшоў у 1953 годзе ў Грэцкую калегію, то такім чынам аднавіў старую традыцыю. Тут я правёў шэсьць гадоў, вельмі шчасьлівых гадоў, калі рыхтаваўся да сьвятарства.

Студэнты былі тут розных нацыянальнасьцяў, з усяго Ўсходу: былі грэкі з Грэцыі, італа-албанцы з паўднёвай Італіі, албанцы (яшчэ пакуль камуністы не зусім там усё зьнішчылі), румыны, і было шмат арабаў з Лівану, Сірыі, Егіпту. Што нас усіх там злучыла — усе мы былі каталікі ўсходняга, грэцкага абраду. Так што сьв. Літургія ў нас была на грэцкай мове. Але што мяне тады адразу ўразіла — усе іншыя студэнты ўжо маглі маліцца на сваіх нацыянальных мовах. Нававысьвячаны сьвятар ужо мог маліцца на сваёй роднай мове: румын — на румынскай, а араб з Усходу — на арабскай ці якой іншай. Мне ўжо тады стала крышку крыўдна, чаму мы, беларусы, ня маем сьв. Літургіі, ня можам маліцца і хваліць Бога на роднай мове, а молімся на царкоўна-славянскай мове. Гэта вельмі паважаная мова, вельмі заслужаная для нашай культуры, але ўсё-такі ня наша і не зусім зразумелая. У тыя часы ў мяне нават такая даволі страшная думка паўстала: магчыма, Сьвяты Дух, які раздаваў мовы апосталам на Сёмуху, на беларускую і забыўся зусім. Тады ў мяне зьявілася думка, каб зрабіць пераклады сьвятых тэкстаў, літургічных тэкстаў, малітваў на беларускую мову. Безумоўна, гэта я ня мог рэалізаваць адразу, трэба было вучыцца. Але, скончыўшы навуку, у 1959 годзе я ўзяўся за гэтую працу, якую працягваю аж да сёньняшняга дня.

***— Якой мовай карысталіся ў калегіі?***

— Студэнты Грэцкай калегіі размаўлялі паміж сабой на якой хочаш мове, але найчасьцей па-італійску. У калегіі выкладалася ўсё на грэцкай мове, а на ўнівэрсітэце выкладаньне прадметаў адбывалася на лаціне, па-італійску, па-француску, але ўся літургіка была на грэцкай мове. Дзякуй Богу, што мне тады давялося вучыць гэтыя мовы, інакш бы я шмат страціў для сябе. Гэта сёньня ў нас могуць быць акадэмікі, што ня ведаюць моваў, але яны па-свойму непаўнацэнныя. На Захадзе ж веданьне розных моваў — справа зусім звычайная. Найперш тут даводзіцца пашкадаваць нашых гісторыкаў. Вучоныя павінны ведаць мовы, асабліва лаціну, з якой выйшлі шмат якія еўрапейскія мовы, а на адной расейскай мове шмат не вывучыш. Гэтае няведаньне вельмі абмяжоўвае іх. Дзякуй Богу, што ў часе вайны я атрымаў добрую беларускую адукацыю, апрача багаслоўскай.

***— Айцец Аляксандр, а якую адукацыю Вы атрымалі ў Беларусі: польскую ці беларускую?***

— Я нарадзіўся пад польскай акупацыяй у Заходняй Беларусі. Да 1939 году тут беларускай адукацыі ўжо практычна не было. Пад Саветамі адукацыя адразу была

толькі па-беларуску. Па-расейску нават ніводнага прадмету не было! Найперш я нядоўга вучыўся ў гімназіі ў Баранавічах, а пасьля — ў Гародзеі (не Гарадзеі — гэта цяпер так скаверкалі), дзе была сярэдняя школа. А ў час нямецкай акупацыі я вучыўся ў Нясьвіжы ў беларускай настаўніцкай семінарыі, якую і скончыў. Там выкладалі ўсе шчырыя беларусы, якія далі нам добрую беларускую аснову. Калі праз усе тыя неспрыяльныя ўмовы і розныя акупацыі, якія перанесла маё пакаленьне, я застаўся беларусам і ёсьць тым, кім цяпер ёсьць, я павінен быць вельмі ўдзячны маім настаўнікам з часоў нямецкай акупацыі. Я быў у такім веку, калі якраз характар маладых людзей фармаваўся. Шмат гаворыцца дрэннага пра гэтых людзей, якія займаліся ў часе нямецкай акупацыі беларускай справай, — калабаранты, здраднікі і г.д. Усё гэта няпраўда! Беларусь не была незалежнай праз доўгія часы, а ўсё ж трэба было рабіць беларускую справу пры кожных абставінах: ці пад польскай акупацыяй, ці раней пад расейскай-імперскай, ці ў Саветах, ці пад немцамі. Яны не былі прыхільнікамі нямецкага ладу, бо тыя ж немцы не далі разьвіцца беларускай вышэйшай асьвеце. Беларусы ж выкарыстоўвалі кожную нагоду, каб рабіць нешта беларускае. Яны зрабілі нам, маладым, такі моцны беларускі ўкол, які застаўся на ўсё жыцьцё. І гэтае пакаленьне пачынала будаваць беларускае жыцьцё на эміграцыі ва ўсім сьвеце.

***— Калі, у якой царкве Вас высьвяцілі на сьвятара?***

— Я быў рукапакладзены 23 лістапада 1958 году ў Рыме ў царкве сьвятога Апанаса Вялікага ў Грэцкай калегіі. Біскуп, які мяне высьвяціў, быў з Калабрыі — Ян Мэнэ. Гэта біскуп з грэка-каталіцкай епархіі для італа-албанцаў, што жывуць у Італіі. Тамсама, у Грэцкай калегіі, была мая першая сьв. Літургія, якую я служыў па-грэцку. А для беларусаў першую Літургію я адслужыў, калі вярнуўся ў Англію, у *Marian House*, недзе ўлетку 1959 году.

***— Айцец Аляксандр, дзе на эміграцыі былі і сёньня яшчэ застаюцца больш-менш прыкметныя асяродкі беларусаў-уніятаў?***

— Адразу паўсталі тры вялікія асяродкі: у Лондане, у Парыжы і ў Чыкага. У Лондане паўстаў наш рэлігійны цэнтр з маленькай царкоўкай, дзе мы молімся кожны дзень, раніцай і ўвечары. Цяпер молімся поўнасьцю па-беларуску і, безумоўна, за Беларусь, ад самага пачатку яе заснаваньня. Пры гэтай царкве мы нейкі час мелі маленькую школку-інтэрнат імя сьв. Кірылы Тураўскага для дзяцей беларусаў, што жылі ў Вялікай Брытаніі. Абставіны з цягам часу зьмяніліся — не было каго вучыць — і мы былі вымушаны закрыць яе. Некаторыя вучні бяруць цяпер актыўны ўдзел у беларускім жыцьці.

Магчыма, найбольш амбітным нашым праектам была ідэя заснаваньня беларускай бібліятэкі імя Ф.Скарыны. У тыя часы ў нас, у Лондане, тады яшчэ жыў біскуп Часлаў Сіповіч, быў тут вядомы сьвятар, рэлігійны і культурны дзеяч айцец Леў Гарошка, выпускнік беларускай Навагрудскай гімназіі перад вайной, калега сусьветна вядомага прафесара Барыса Кіта. Калі а. Леў Гарошка жыў у Лондане, Барыс Кіт быў у нас вельмі частым госьцем. Жыў таксама ў нас айцец Язэп Германовіч — вядомы як паэт Вінцук Адважны. Я меў радасьць амаль 20 гадоў жыць разам з ім і працаваць блізка. І вось аднойчы, пасьля добрага абеду, на прагулцы ў парку разам з біскупам Сіповічам раптам зьявілася думка заснаваць беларускую бібліятэку. Не помню цяпер, хто сказаў гэта — я ці біскуп Сіповіч. Дзякуй Богу, хоць і з вялікімі цяжкасьцямі, аднак нам удалося купіць дом пад бібліятэку побач з нашым царкоўным. Гэта адбылося ў 1970 годзе. Мне давялося быць кіраўніком гэтай бібліятэкі, і яшчэ да гэтага часу я не магу пазбыцца гэтага гонару *(сьмяецца — рэд.)*. У тым часе ў бібліятэцы было, можа, якіх-небудзь 3-4 тысячы кнігаў, сёньня ж яна мае больш за 20 тысячаў адзінак. Кіруе бібліятэчная рада, у якой ёсьць як беларусы, так і ангельцы-славісты. Мы зьбіраем толькі тыя матэрыялы, якія датычаць Беларусі. Гэта можа быць мова, гісторыя, нешта царкоўнае. Маем арыгінальныя кнігі Францішка Скарыны. Мы зьбіраем усе рукапісныя матэрыялы і дакументы адносна Беларусі. Асабліва ў нас багатая цяпер калекцыя дакументаў з гісторыі беларускай Царквы XX стагоддзя, а таксама гісторыя беларускай эміграцыі. Многія пісьменьнікі, кампазітары аддалі нам свае архівы. Мы маем вялікія музычныя архівы, прыкладам, Куліковіча і Равенскага. Мы купілі на аўкцыёне ў Лондане вельмі цікавы ўнікальны беларускі рукапіс, зроблены беларускім біскупам Тодарам Скуміновічам, які, калі паехаў у Рым, зрабіў тэкст Літургіі Яна Залатавуснага з перакладам на лацінскую мову і даў яго беларускім базыльянам, што былі ў царкве сьв. Сяргея і Вакха ў Рыме. Напэўна, калі на Літургію да іх прыходзілі італійскія біскупы лацінскага абраду, ім давалі тэкст на лаціне. У апошні час, недзе ў 1997 годзе, нам удалося купіць аж пяць кніг Скарыны, а таксама чэшскую Біблію 1506 году, якой карыстаўся пры перакладах Скарына. Мала хто яе мае, гэтай кнігі няма нават у Брытанскай бібліятэцы ў Лондане. У нашым цэнтры ў Лондане вельмі шмат матэрыялаў, якія чакаюць сваіх дасьледчыкаў.

Сёньня ў Лондане ёсьць беларускія студэнты. Нам трэба выхоўваць нашую моладзь, і ня толькі філолагаў, гісторыкаў, але і багасловаў. У Беларусі багаслоўскае навукі яшчэ 10 гадоў таму зусім не існавала. Цяпер падымаецца, але ж вельмі павольна. І вось я вырашыў таксама ўзяць на сябе цяжар, можа, ня вельмі абдумана *(сьмяецца — рэд.)*, каб даць, прынамсі, некалькім студэнтам добрую, салідную багаслоўскую асьвету на Захадзе. Неабавязкова для хлапцоў, якія могуць стаць сьвятарамі, дай Бог, бо яны вельмі патрэбныя, але таксама і для дзяўчатаў. Дзяўчаты ня могуць быць сьвятарамі, але могуць быць тэолагамі, настаўнікамі-катэхізатарамі.

У Парыжы цяпер, на жаль, няма сьвятара. Там ёсьць невялікае памяшканьне з каплічкай, і мне прыходзіцца езьдзіць з Лондану ў Парыж і назад. Сёньня гэта ня так цяжка — у Еўропе няма межаў: прыйшоў, купіў білет, сеў на цягнік і прыехаў. Праблемы няма. Але абслугоўваць мне прыходзіцца аж дзьве краіны — Англію і Францыю, і гэта складана.

***— Як часта Вы бываеце ў Парыжы і служыце Літургію там?***

— Раз на месяц. Цяпер не магу болей — састарэў ужо.

***— У Бельгіі сёньня шмат новых эмігрантаў з Беларусі. Ці езьдзіце Вы да іх?***

— Ну чаму, у Бельгіі таксама бываю. Беларусаў сапраўдных, на жаль, там вельмі мала, больш «рускоязычных». Умоўная іхная беларускасьць...

***— А дзе яшчэ сёньня ёсьць уніяты?***

— У Амерыцы, у Чыкага. Там ёсьць царква, ёсьць сьвятар-амерыканец, час ад часу даязджаю і я. Яе будавалі, каб гэта было ўсё беларускае. У Амерыцы, напрыклад, можна сустрэць уніятаў з Дэлятычаў (у міжваенны час тут была ўніяцкая парафія). Помню, прыязджаю ў Амерыку — там быў зьезд беларусаў — ляціць да мяне такі маленькі чалавек: «Айцец, Вы — уніят? Я — уніят з Дэлятычаў! Калі служба будзе?..» Вядомая беларуская паэтка Натальля Арсеньева была ўніяткай адданай. Ужо будучы ў сталым веку, у пілігрымкі езьдзіла да памятнага Крыжа, пастаўленага беларусамі ў Канадзе... У іншых краінах уніятаў зусім мала. Паміраюць, старэюць многія...

*Праця г размовы з а. Аляксандрам Надсанам чытайце ў наступным нумары «Царквы»*

*Гутарыў* **Ігар Бараноўскі**



**Берасьце, 25.05.2000. Айцец Аляксандр Надсан з берасьцейскім парахам а. Ігарам Кандрацьевым на месцы базыльянскай Петра-Паўлаўскай царквы.**

*Гімн Вялікага Юбілею-2000*

# Хрыстос – наш Госпад, учора й сёньня

Тэкст: Жаклін Фрэдэрык Фрые (беларускі тэкст — рэдакцыя газеты «Царква»)
Музыка: Жан-Поль Зэко

*Прыпеў:* Хры- стос — наш Го-спад, у- чо- ра й сё- ньня, Хры- стос — У-ла-дар спрад-
ве- чны. Бо- жы Сын, лю- бо- ві дар, Ты нас клі- чаш: вось жа
мы! 1. Вя- лі- кі Го-спад, Я- кі зы- шоў на гэ- ты сьвет, каб зба- віць
нас. Сьме-рцю кры- жо- вай зьні- шчыў грэх. Ты так па- лю- біў лю-
дзей! А- мін! А- лі- лу- я!



*Рым, 18.03.2000. Яго Блаславенства Рафаіл Бідаўід, Патрыярх Халдэйскай Каталіцкай Царквы служыць Боскую Літургію ў рамках сьвяткаваньня Юбілею 2000 Году.*

*Прыпеў:*

*Хрыстос — наш Госпад, учора й сёньня,*
*Хрыстос — Уладар спрадвечны.*
*Божы Сын, любові дар,*
*Ты нас клічаш: вось жа мы!*

**1. Вялікі Госпад, Які зышоў**
**На гэты сьвет, каб збавіць нас.**
**Сьмерцю крыжовай зьнішчыў грэх.**
**Ты так палюбіў людзей! Амін! Алілуя!**

*Прыпеў*

**2. Вялікі Госпад, Бог-Чалавек,**
**У бэтлеемскай народжаны стайні**
**Ад Усячыстае Дзевы Марыі.**
**Ты так палюбіў людзей! Амін! Алілуя!**

*Прыпеў*

**3. Вялікі Госпад, адзінародны Сын,**
**У Назарэце цесьлем Ты быў,**
**Але, як Сьветач, у цемры сьвяціў.**
**Ты так палюбіў людзей! Амін! Алілуя!**

*Прыпеў*

**4. Вялікі Госпад — найлепшы Пастыр,**
**што сьцеражэ Сваіх ягнят.**
**Воўк разганяе — Ты зьбіраеш.**
**Ты так палюбіў людзей! Амін! Алілуя!**

*Прыпеў*

**5. Вялікі Госпад, Настаўнік наш,**
**Ты вучыш нас Сваім шляхам,**
**Што прывядуць да шчасьця брам.**
**Ты так палюбіў людзей! Амін! Алілуя!**

*Прыпеў*

**6. Вялікі Госпад, бо Ён дае**
**Нам на Вячэры ў хлебе й віне**
**Цела і Кроў Сваю на векі.**
**Ты так палюбіў людзей! Амін! Алілуя!**

*Прыпеў*

**7. Вялікі Госпад, на сьмерць аддана,**
**За нас, як Агнец, церпіць Сам,**
**Каб узыйсьці ў неба й нам.**
**Ты так палюбіў людзей! Амін! Алілуя!**

*Прыпеў*

**8. Вялікі Госпад, пачуй Яго,**
**З Крыжа Ён просіць: «Даруй усім!»**
**І дае Маці дзецям Сваім.**
**Ты так палюбіў людзей! Амін! Алілуя!**

*Прыпеў*

**9. Вялікі Госпад, Ты маеш моц**
**У Тысячагоддзе новых дарог**
**Свой Супакой прынесьці ў сьвет.**
**Ты так палюбіў людзей! Амін! Алілуя!**

*Прыпеў*

**10. Вялікі Госпад, Айцец і Сын,**
**І Суцяшальнік Дух Сьвяты,**
**Славім Цябе, Адзіны Бог!**
**Ты так палюбіў людзей! Амін! Алілуя!**

*Падчас Каляднага і Вялікага Посту замест «Амін! Алілуя!» можна сьпяваць: «Амін! Марана Та! (Marana Tha!)».*

Урывак з кнігі Альберта Аблондзі «Ніякіх павучаньняў»

# "Што кепскага ў сэксе?"





*Дарагі Біскуп Альберта!*

*Тое, што Вы абвяшчаеце ў сваіх пасланьнях да моладзі,— вельмі карыснае для выхаваньня юнага пакаленьня. Хоць я й ня веру ў Бога і, адпаведна, не ўдзельнічаю ў набажэнствах, я прызнаю, што Царква ставіць перад сабою важныя задачы, якія, спадзяюся, яна будзе вырашаць з нязьменным посьпехам. Напрыклад, я таксама лічу, што выхоўваць у чалавеку непрыняцьце наркотыкаў патрэбна ад самага пяшчотнага ўзросту. Аднак я ня згодны з тым, як Царква падыходзіць да праблемы сэксу. У гэтым пытаньні яна займае надта адсталую пазіцыю.*

***Марка***

**Дарагі Марка!**

**Вось жа і ты таксама, як і многія іншыя, што мне напісалі, лічыш, што Царква адстала ў сваёй ацэнцы праблемы сэксу. Гэтае сьцьверджаньне мяне палохае, бо я баюся (даруй за такія словы), што ў аснове гэтага абвінавачаньня палягае не толькі недасьведчанасьць у хрысьціянскай маралі, але і глыбокая ды небясьпечная непадрыхтаванасьць у пытаньні пра сэкс.**

**Каб лепш патлумачыць гэтую думку, дарэчы будзе прыгадаць, як часта, напрыканцы абеду, калі гаспадары прапануюць гасьцям штосьці-небудзь вельмі-вельмі смачнае на дэсерт, мне даводзіцца выступаць з кароткай лекцыяй аб... хрысьціянскай маралі. Менавіта так, бо мне не падабаецца выраз: "А цяпер аддамося граху абжорства". Быццам усё прыемнае і добрае для нашых пачуцьцяў — гэта грэх.**

**У такіх выпадках я вытлумачваю, што мы б рабілі грэх, калі б зьелі столькі салодкага, што ўжо пачуваліся б дрэнна, ці калі б сталі есьці дэсерт, ведаючы, што гэта нам шкодна, ці калі б патрацілі зашмат грошай дарэмна, замест каб прапанаваць іх тым, хто мае патрэбу. За выключэньнем гэтых трох выпадкаў, пачаставацца смачным дэсертам — тое самае, што любавацца кветкамі. Так што ў гэтым няма нічога адмоўнага, больш таго — гэта дадатковая нагода для падзякі Богу і ўслаўленьня Яго.**

**Гэтак сама варта было б ставіцца і да сэксу.**

**Сэксуальныя зносіны поўныя вартасьці, чалавечае годнасьці і таму — прыгожыя і велічныя. Натуральна, да сэксу маюць дачыненьне ня толькі некаторыя органы,— ён ахоплівае ўсё цела і ўсю асобу, пераўвасабляючы гэтае цела і гэтую асобу ў мужчыну ці жанчыну. Сэкс — прыгожы, велічны і поўны годнасьці таму, што ёсьць заклікам да гарманічных адносінаў паміж людзьмі; таму што ў гэтых адносінах ён прапануе ня толькі дыялог целаў, але таксама і дыялог прысутнасьці, дыялог погляду і слова ў дзівосным узаемадапаўненьні; таму што перш да таго, як прыйсьці да зьяднаньня, ён патрабуе папярэдніх адносінаў даравaнай пяшчоты і спагадлівасьці ці падзеленых цярпеньняў, і вянчае гэтыя адносіны. Бо самое зьяднаньне — гэта крыніца навізны, а таксама глыбокага міжасабовага дыялогу і сувязі; бо ён ня толькі знак суцэльнае самааддачы, але і абяцаньне ўцелавіцца ў цудзе новага жыцьця.**

**У гэтым і ёсьць велічнасьць, і, я б сказаў, сузіральная прыгажосьць палавых адносінаў.**

**Але, як і ўсё прыгожае, яны могуць быць зьнявечаныя, і тады — і толькі тады — яны становяцца грахом. Але як і чым іх можна зьнявечыць? Гэта адбываецца тады, калі імі да таго злоўжываць, што больш не адчуваюць прыцягальнасьць іншага чалавека. Дакладна так можна атрымліваць асалоду ад добрага віна, толькі пакуль ня станеш п'яны. Тады губляецца здольнасьць адчуваць смак, а часам і самая сьвядомасьць. Таму "піць" — добра, а напівацца — грэх. Так, сэкс нявечыцца, калі мы "займаемся" ім у рамках легкаважнае сувязі: тады ён зачыняе чалавека ва ўласным эгаізме; у ім няма той эмацыйнасьці, узвышанасьці, фактарам разьвіцьця якой ён можа стаць.**

**Зьнявечаны і грахоўны сэкс і тады, калі зводзіцца да гульні — не любоўнай, а эратычнай, у якой кожны шукае толькі самога сябе.**

**А яшчэ сэкс нявечыцца, калі каштоўнасьць яго не ўзрастае ў дынаміцы ўзаемаадносінаў, калі ад яго сістэматычна "адсякаецца" яго самае вялікае і да́раноснае натуральнае разьвіцьцё, якое вянчаецца нараджэньнем новага жыцьця.**

**Хтосьці, можа, скажа, што гэткія маральныя перасьцярогі надта строгія. На жаль, адказаць магу доказамі і дакументамі, якія сьведчаць пра варты жалю стан палавога жыцьця ў сучасным сьвеце. Як мне здаецца, можна канстатаваць гэткія факты: сёньня адначасова існуюць надзвычайная сэксуальная свабода побач надзвычайнай сэксуальнай закамплексаванасьцю і імпатэнцыяй; надзвычайнае ўслаўленьне сэксу і надзвычайная неадукаванасьць нават у тым, як трэба "займацца любоўю". Менавіта гэтыя факты даюць мне падставы меркаваць, што адной з асноўных сацыяльных праблемаў, з якімі Царква сутыкнецца ў будучыні, будзе не замоўчваньне сэксу, а пераацэнка палавых каштоўнасьцяў. Сапраўды, неабходна, каб у людзях адрадзілася сэксуальнасьць, якая ёсьць любоў, увасобленая ў целе. Перакананы, што сэксуальнасьць, і менавіта натхнёная хрысьціянствам, атрымае сапраўднае разьвіцьцё, будзе даўжэй прыносіць радасьць, стане больш глыбокай, больш цэльнай, больш працяглай, больш творчай і больш плённай сувязьзю.**

**Як бачыш, Царква не выступае супраць сэксу, яна — за сэкс: у ягонай прыгажосьці і ў ягонай трываласьці. А супраць яна адно толькі эгаістычнага руйнаваньня акту, які павінен сьцьвярджаць і ўцелаўляць любоў.**

**Калі ты, раптам, мяне не зразумееш, я гатовы працягваць размову. У любым выпадку маю спадзяваньне, што ты пабачыш у маіх словах клопат не пра вынішчэньне сэксу, а пра выратаваньне яго!**

**† Біскуп Альберта**

# Першыя прадстаўнікі нашае Царквы ў Рыме

*Сьвяткуючы Юбілей 2000 году, нашая Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква імкнецца падкрэсьліць сваю традыцыйную сувязь з Апостальскай Сталіцай. Таму дарэчы будзе пазнаёміць нашых вернікаў з гісторыяй храму Жыровіцкай Божай Маці і сьвятых мучанікаў Сяргея і Вакха ў Рыме. Гэты храм, дзе й сёньня знаходзіцца цудатворны абраз Маці Божай Жыровіцкай, слынны ў Вечным Горадзе сваімі ласкамі і ацаленьнямі, стаўся на некалькі стагоддзяў маленькім куточкам нашай Бацькаўшчыны, прадстаўніцтвам нашай Уніяцкай Царквы ў горадзе Апостала Пятра. (Сёньня гэтым храмам карыстаюцца ўкраінскія грэка-каталікі). Беларускія гісторыкі яшчэ даволі рэдка кранаюць гэтую тэму, таму мы прапануем вам выбраныя часткі з працы ўкраінскага гісторыка біскупа Івана Хомы «Нарис історії храму Жировицької Богоматері і свв. мучеників Сергія і Вакха в Римі» (гл. у кнізе а. доктара Івана Хомы «Київська митрополія в Берестейскім періоді», разьдзел V, с. 185-196, 218-225, Рым, 1979).*

Намаганьні Кіеўскіх мітрапалітаў мець уласную царкву ў Рыме сягаюць часоў мітрапаліта Руцкага, калі ён у 1625 г. прызначыў першым пракуратарам (прадстаўніком) нашай Царквы айца Міколу Новака, базыльяніна.

Мітрапаліт Руцкі ў лісьце да Папы Урбана VIII 10 сьнежня 1625 году пісаў, якія паўнамоцтвы будзе мець пракуратар: «Карысны ў іншых звычай, якога мы дагэтуль не ўжывалі, каб адзін з нас знаходзіўся стала ў Рыме, і мог бы асабіста азнаёміць Вашую Сьвятасьць з нашымі справамі, і, наадварот, — даведацца ад Вашае Сьвятасьці ды паведаміць нам, што цяпер і на будучыню Вашая Сьвятасьць ад нас вымагае. Дзеля гэтага пасылаю аднаго з маіх манахаў базыльянаў, сьвятара Міколу Новака, які найперш складзе ад майго імя і маіх біскупаў належны паслух Вашай Сьвятасьці, а таксама распавядзе, які ёсьць стан Русінскае[1] Царквы». А паслаў яго з парады сакратара Кангрэгацыі Пашырэньня Веры — Франчэска Інголі, як вынікае з ліста мітрапаліта Руцкага да Інголі 10 сьнежня 1625, у якім мітрапаліт выказвае сваю ўдзячнасьць за параду наконт прызначэньня пракуратара ў справах Сьвятой Уніі і даручае першага пракуратара ласкавасьці й апецы сакратара Інголі ды просіць дапамагаць яму ва ўсім.

Гэты пракуратар быў афіцыйна прыняты ў Кангрэгацыі Пашырэньня Веры 16 чэрвеня 1626 г. у прысутнасьці 6 кардыналаў «і перадаў даверчыя лісты Мітрапаліта Русі, якімі мітрапаліт прызначыў яго прадстаўніком Русінскай Зьяднанай Царквы пры Апостальскім Пасадзе ды прасіў, каб яго ў гэтай якасьці прынялі Папа й Сьвятая Кангрэгацыя і каб гэтая апошняя мела поўны давер да таго, што ён паведаміць ад свайго імя й ад імя Русінскай Царквы». Праз чатыры дні Кангрэгацыя, у лісьце да мітрапаліта Руцкага, выказала сваю задаволенасьць з прычыны ўстанаўленьня пасады пракуратара, бо спадзявалася, што ў будучыні справы Русінскай Царквы будуць вырашацца хутчэй, на высокім узроўні і з большым посьпехам.

А ў лісьце за той самы дзень, 20 чэрвеня 1626 г., да Апостальскага Нунцыя ў Польшчы Лянчэлётта, прэфект Кангрэгацыі кардынал Людавізі пісаў, што айцец Новак уладкаваны ў манахаў сьвятога Базыля, каб зьменшыць выдаткі на ягоны побыт у Рыме, і, што кардыналы, чальцы Кангрэгацыі, надта ўхвалялі гэтае рашэньне мітрапаліта, спадзеючыся, што праз прысутнасьць пракуратара ў Рыме зьдзнаньне Русінаў з Апостальскім Пасадам змацуецца, а можа, яшчэ больш пашырыцца.

У згаданым вышэй лісьце йдзе гаворка пра Гротафэрацкі базыльянскі манастыр, заснаваны сьвятым Нілам. Папа Клімент VIII, у 1599 г., перадаў ім манастыр побач з царквой сьвятога Панцеляймона, непадалёк ад царквы сьвятога Пятра *«in Vincoli»*. З надпісу над прастолам гэтае царквы вынікае, што яна ўжо існавала ў 1113 г. Паводле старажытнага паданьня, у царкве нейкі час спачывалі мошчы сьв. Панцеляймона, падчас іхняга перанясеньня з Нікадэміі.

Папа Урбан VIII, булай ад 17 сьнежня 1631 г., загадаў, каб гротафэрацкія базыльяне заснавалі сваю калегію ў Рыме; тады яны набылі царкву сьв. Яна *«in Mercatello»* й Папа зацьвердзіў гэты кантракт 17 жніўня 1634 г., яны туды перайшлі ў 1635 г. Потым яны ўладкаваліся ля царквы сьвятога Базыля ў квартале *«Пінчана»*, дзе жывуць і сёньня. А цэркаўку сьвятога Панцеляймона Папа Бенядзікт XIV, у 1748 г., даручыў Архібрацтву Ўсячыстай Дзевы Марыі «Добрай Парады». Пра гэта сьведчыць і цяперашні надпіс над уваходам у царкву.

Пасьля складаньня даверчых лістоў першы пракуратар Русінскай Царквы пачаў выконваць свае абавязкі: заплаціў, ад імя мітрапаліта, за двух выхаванцаў грэцкае калегіі; перадаў Папу Урбану VIII ліст мітрапаліта, каб пакараць тых лаціньнікаў, якія прадаюць цэрквы зьдзнаных незьяднаным; асобным лістом, у канцы чэрвеня 1626 г., айцец Новак перадаў дзесяць пытаньняў сакратару Кангрэгацыі — Інголі, якія былі вырашаныя на сходах Кангрэгацыі 28 ліпеня 1626 г.

На тых жа сходах разгледжана просьба айца Новака — адпраўляць па-царкоўнаславянску сьвятую Літургію. Кангрэгацыя вырашыла праверыць, ці ва ўсім адпавядае царкоўнаславянскі пераклад Літургіі сьвятога Яна Залатавуснага; і калі адпавядае, дык дазволіць айцу Новаку адпраўляць яе ў прыватнай капліцы. 13 жніўня 1626 г. Кангрэгацыя параўнала царкоўнаславянскі пераклад, зроблены Пятром Аркудзі, Марнавічам, айцом І.Тонкам, харватам і айцом Новакам, грэцкай Літургіі сьвятога Яна Залатавуснага, і падчас гэтага паўсталі некаторыя цяжкасьці, а менавіта, што згаданая Літургія розьнілася з лацінскай у словах асьвячэньня агнца: «...гэта Цела Маё, што за вас ломіцца для адпушчэньня грахоў», і што пасьля асьвячэньня сьвятар зноў моліцца, каб хлеб стаў Целам Хрыста, і віно Крывёй, такімі словамі: «і зрабі хлеб гэты сьвятым Целам Хрыста Твайго. Амін. А тое, што ў гэтай чашы, сьвятой Крывёй Хрыста Твайго. Амін». З увагі на згаданыя цяжкасьці Кангрэгацыя вырашыла пераслаць справу ў Сьвяты Афіцыюм, каб яе праверылі тэолагі, а потым разгледзець на сходах Кангрэгацыі ў прысутнасьці Папы.

У архіве Пашырэньня Веры, у аддзеле «Розныя інструкцыі ў 1628-1638 гадох», ёсьць кароценькая інструкцыя айца Новака за 1626 г. адносна ўнійнай акцыі. У тым жа годзе перадалі Русінам царкву сьвятога Лаўрэна *«ін Фонтэ»*. За гэты падарунак дзякаваў мітрапаліт Руцкі ў лістох да Папы Урбана VIII і да сакратара Кангрэгацыі Інголі 30 студзеня 1627. На сходах Кангрэгацыі 21 траўня 1627 г. разгледжана просьба Рафала Корсака, біскупа Галіцкага, аб дапамозе ў пабудове каля царквы сьвятога Лаўрэна *«ін Фонтэ»*, падараванай зьяднаным Русінам, жытла для айца Новака, пракуратара зьяднаных Русінаў, і для двух альбо трох братоў, манахаў сьвятога Базыля. Папа даручыў узгадніць гэтую справу з візітатарамі Рыму.

Царква сьвятога Лаўрэна месьцілася паміж царквой сьвятога Пятра *«in Vincoli»* й царквой сьвятых Сяргея й Вакха. Раней, паводле паданьня, на гэтым месцы, дзе стаіць царква сьвятога Лаўрэна, быў дом сьвятога Іпаліта, рымскага ваяра, якому даручылі сьцерагчы сьвятога Лаўрэна-пакутніка. Той навярнуў Іпаліта й ахрысьціў яго вадой з крыніцы, якая забруіла ў турме, як толькі сьвяты Лаўрэн дакрануўся пальцам да зямлі. Гэтая «крыніца», ад якой займела назву царква, існуе й сёньня. Царква была адноўлена ў 1543 г., а потым зноўку ў XVII ст. Папай Урбанам VIII.

Перадача царквы сьвятога Лаўрэна ніколі не была канчатковай, і таму мітрапаліт Руцкі працягваў прасіць Кангрэгацыю аб прызначэньні Русінам іншае царквы. І ягоныя просьбы разглядаліся на сходах Кангрэгацыі 22 лістапада 1630 г., пад кіраўніцтвам Папы Урбана VIII, а таксама месяцам пазьней, 23 сьнежня ў тым жа годзе, і 7 траўня 1631 г. таксама ў прысутнасьці Папы.

Тым часам пракуратар айцец Новак працягваў сваю працу. У месяцы верасьні 1627 г. прапанаваў Кангрэгацыі 33 розныя справы нашай Царквы, а ў 1628 г. зноў прадстаўляў справы сваіх Уладыкаў. Акрамя таго, у тым жа годзе атрымаў яшчэ паўнамоцтвы пастулятара беатыфікацыі й кананізацыі сьвятога пакутніка Язафата, і за ягоным пастулятарствам адбылося ў Рыме два працэсы ў гэтай справе (6 лістапада 1629 г. і 5 сакавіка 1632 г.)

Айцец пракуратар падтрымліваў у Рыме ідэю мітрапаліта Руцкага наконт скліканьня агульнага Сіноду й братняга замірэньня з праваслаўнымі. У гэтай справе ён шмат разоў быў у Кангрэгацыі, заяўляючы, што праваслаўныя маюць цяжкасьці толькі наконт першынства Сусьветнага Архірэя, а адносна іншага, дык яны згодныя прыняць рашэньні Флярэнцкага Ўсяленскага Сабору 1439 году. Гэтую ідэю агульнага Сіноду падтрымліваў і сакратар Кангрэгацыі Ф.Інголі, хоць тры кардыналы й два іншыя ерархі не пагаджаліся. Аб гэтым Ф.Інголі напісаў асабліва доўгую ноту, датаваную 4 чэрвеня 1629 г.

Пасьля чатырох гадоў пракуратарства айца Новака ў мітрапаліта Руцкага ўзьніклі сумненьні, ці сумленна ён выконвае свае абавязкі. І пра гэта ён пісаў да Ф.Інголі 1 сьнежня 1630 г., кажучы, што «тут шмат людзей абвінавачвае айца Міколу Новака, што ён несур'ёзна выконвае даручаныя яму справы...», і таму просім паведаміць, ці можа айцец Новак надалей быць у Рыме, ці яго трэба зьмяніць.

У 1631 г. айцец Новак захварэў і перад 27 сакавіка зьвяртаўся да Кангрэгацыі з просьбай пра дапамогу, адзначаючы, што да гэтага часу ўтрымліваў яго мітрапапіт, а цяпер сувязь з ім перарвалася з-за павальнай пошасьці ў Польшчы й перашкоды ў Італіі. Але ўсё ж такі ён працягваў сваю працу, і яшчэ ў 1632 г. прадстаўляў Кангрэгацыі мітрапалітавы справы. Памёр ён нечакана ў студзені альбо ў лютым 1633 г., бо мітрапаліт Руцкі піша пра гэта да Кангрэгацыі Пашырэньня Веры ў лісьце ад 1 сакавіка 1633 г.

Пасьля сьмерці айца Новака 1 сакавіка 1633 г. мітрапаліт Руцкі пісаў да Ф.Інголі, што высылае да грэцкай калегіі ў Рыме двух айцоў, і што яны паведамяць пра ўсё, аднак не надаў ім паўнамоцтваў пракуратара, каб не адцягваць іх ад вучобы.

З кастрычніка-лістапада 1633 да кастрычніка 1635 абавязкі пракуратара выконваў каад'ютар мітрапаліта біскуп Рафал Корсак, якога мітрапаліт Руцкі ў лісьце да Папы Урбана VIII называе «нашым прамоўцам» ды «прадстаўніком і пракуратарам у справе беатыфікацыі пакутніка Язафата».

Перад прыездам біскупа Корсака сакратар Кангрэгацыі Пашырэньня Веры Ф.Інголі клапаціўся пра жытло для яго ў Рыме, і 15 кастрычніка 1633 г. Пётр Бэнэса, з Кастэльгандольфа, пісаў да Кангрэгацыі Пашырэньня Веры, што Папа паведаміў яму, што біскуп Корсак будзе жыць каля «Царквы Сьвятога Духа», як будзе ў Рыме, а калі па-за Рымам, дык можа ў Гротафэраце альбо ў іншым зручным жытле. Праз два тыдні той самы П.Бэнэса пісаў да сакратара Кангрэгацыі Інголі, што Папа вырашыў знайсьці жыльлё для біскупа Корсака каля царквы «сьвятога Сільвестра альбо ў Сьвятога Апостала» й даць яму асобную брычку.

Перад ягоным ад'ездам у Рым мітрапаліт Руцкі ды іншыя пяць Уладыкаў Кіеўскай мітраполіі, у лісьце ад 13 сакавіка 1633 г., далі даручэньні біскупу Корсаку. Найперш, каб склаў ад іхняга імя паклон і пруслух Папу Урбану VIII і паведаміў, што пагоршыўся стан Русінскае Царквы ў сувязі з абраньнем новага караля Рэчы Паспалітай Уладзіслава IV у 1632 г. Новы кароль вырашыў выканаць галоўныя патрабаваньні праваслаўных, перадусім упарадкаваць іхнюю ерархію й давёў да таго, што канстытуцыя 1635 г. паставіла ў Кіеве, побач з каталіцкім мітрапалітам Руцкім, таксама й праваслаўнага мітрапаліта Пятра Магілу.

У прыватнасьці, мітрапаліт Руцкі ды астатнія Ўладыкі (Уладзімірскі й Берасьцейскі; Полацкі, Віцебскі й Мсьціслаўскі; Смаленскі й Чарнігаўскі; Перамышльскі й Самборскі; Холмскі й Бельзскі) даручылі, каб ён прасіў Папу пра кананізацыю Слугі Божага Язафата й пра царкву ды пра жытло ў Рыме, як ужо было абяцана раней.

Мітрапаліт Руцкі ў лісьце ад 5.02.1635 г., з Варшавы, нагадваў біскупу Корсаку, каб прасіў Папу й кардынала Барбэрыні пра царкву ў Рыме, якая вельмі неабходна для Уніі. Сярод дакументаў за 1634 г. ёсьць просьба біскупа Корсака, у якой ён ад імя ўсяго народу прасіў Папу Урбана VIII даць якую-небудзь царкву ў Рыме, дзе можна адпраўляць сьвятую Літургію ў сваім абрадзе і каля якой было б жыльлё для Русінаў ды месца для пракуратара. З чэрвеня 1637 г. Кангрэгацыя Пашырэньня Веры разглядала розныя просьбы новага мітрапаліта Корсака, між іншым і справу царквы ды жыльля ў Рыме для Русінаў. Аднак толькі ў 1638 г. мітрапаліт Корсак даведаўся, што справа будзе вырашана прыхільна, як гэта відаць з ягонага ліста да Ф.Інголі (12.07.1638 г.) і з ліста да Папы.

Гэта сталася 12 траўня 1639 году. Кангрэгацыя Апостальскай Візытацыі ўладаю Папы, паводле ягонага загаду й даручэньня, «пастанавіла, вырашыла й загадала перадаць царкву сьвятых Сяргея й Вакха з прылеглым будынкам на заснаваньне там Калегіі Нацыі Русінаў...». Папа Урбан VIII зацьвердзіў 8 лютага 1641 г. загадзя падрыхтаваны дэкрэт, надаючы яму моц непарушнага апостальскага пацьверджаньня, каб усе непарушна яго зьберагалі. Вядома, што Папа Аляксандр VII, жадаючы забясьпечыць кіраўніцтва й разьвіцьцё «дому сьвятых Сяргея й Вакха Русінскай Нацыі», падпарадкаваў яго 12.06.1660 г. Кангрэгацыі Пашырэньня Веры. А ў 1667 годзе Папа Клімент IX, даючы 23 кастрычніка 1667 г. поўны водпуст тым, хто будзе наведваць царкву сьвятых Сяргея й Вакха, выразна адзначае: «царкву сьвятых Сяргея й Вакха Русінскай Нацыі, а не манахаў». Таксама Папа Леў XIII, ствараючы 18 сьнежня 1897 года «Русінскую Калегію», пісаў: «...Мы зьвярнулі ўвагу на царкву сьвятых Сяргея й Вакха з прылеглымі будынкамі, якія ўжо Урбан VIII ласкава падараваў Русінам».

Навучэнцы, якія вучыліся ў Рыме ў XVII-XVIII стст., былі пераважна базыльянамі, але са згаданых папскіх дакументаў ясна, што царква сьвятых Сяргея й Вакха ды прылеглыя будынкі былі падараваныя «Русінскай Нацыі». Хоць кардынал А.Барбэрыні (брат Папы Урбана VIII) павялічыў фундацыю для «Русінаў» домам для базыльянаў, які пабудаваў на выкупленай прылеглай пляцоўцы, аднак нічога не зьмяніў у першапачатковым прызначэньні ўласнасьці: таксама трэба мець на ўвазе, што ў той час базыльяне распараджаліся царквой і інтэрнатам, а іхны генеральны пракуратар рэпрэзентаваў цэлую Русінскую Нацыю, а ня толькі іхні Закон, і базыльяне тады яшчэ не былі «экзэмптамі» *(выведзенымі з-пад улады мітрапаліта — рэд.).*

Таксама й дакумент Папы Бенядзікта XIV *«Inter plures»* ад 11 траўня 1744 г., спасылаючыся на ліст Папы Урбана VIII ад 8 лютага 1641 г., нічога не зьмяніў наконт першапачатковага падараваньня. Папа абмежаваўся пацьверджаньнем папярэдніх фундацыяў, але забясьпечыў генеральнаму пракуратару базыльянаў кіраўніцтва маёмасьцю й царквой. Аўтары-базыльяне ў сваіх публікацыях цяпер маюць іншую думку. Хаця пракуратары айцец Ёзаф дэ Каміліс (потым біскуп Закарпацьця) і айцец Ярдан Міцкевіч пісалі йнакш. Першы ў лісьце ад 1679 г. пісаў, што няма лепшага выйсьця, каб дапамагчы Уніі, як заснаваньне семінарыі пры царкве сьвятых Сяргея й Вакха: «Гэтае месца узяў ад Айцоў сьвятога Францішка з Паолі Урбан VIII і даў Русінам дзеля заснаваньня семінарыі, як гэта відаць з булы. Сьмерць кардынала сьвятога Анупрэя (А.Барбэрыні), што займаўся гэтай пабожнай справай, адклала выкананьне».

Генеральны пракуратар і рэктар царквы й інтэрнату «Жыровіцкай Божай Маці» *(«Madonna del Pascolo»)* айцец Ярдан Міцкевіч (1789-1829) у лісьце да сакратара Кангрэгацыі Пашырэньня Веры — Пэдэчыні — 2 траўня 1822 г. пісаў так: «Царква з інтэрнатам сьвятых Сяргея й Вакха, званая звычайна ў Рыме *«Madonna del Pascolo»*, была падаравана папай Урбанам VIII Польска-Русінскай нацыі, каб заснаваць калегію Русінскай нацыі й г.д., і з таго часу й да сёньня без ніякае зьмены згаданая нацыя, праз сваіх Базыльянаў, ёю распараджалася. І ў гэтым стагоддзі, калі адна чужая камісія прэтэндавала заняць згаданае пабожнае месца, дык Папа Пій VII выразна пацьвердзіў рэктару, што ніжэй падпісаўся, даўнюю адміністрацыю...» Адсюль зразумела, што Айцы Базыльяне былі толькі адміністратарамі пад наглядам Кангрэгацыі Пашырэньня Веры.

Справа ўласнасці царквы Сьвятых Сяргея й Вакха ды прылеглых будынкаў узьнікла праз некалькі гадоў пасьля таго, як італійцы занялі Рым (20.09.1870). Лістамі ад 11.05 і ад 21.05.1875 г. Ліквідацыйная Рада запатрабавала ад айца пракуратара М.Дуброўскага падаць дакументы, якія даказвалі б, што царква сьвятых Сяргея й Вакха не падпадае пад закон ад 19.06.1873, якім італійскі ўрад забіраў ва ўласнасьць царкоўную маёмасьць Папскае Дзяржавы.

Праз паўтара месяцы старшыня згаданай Рады паведаміў айцу Дуброўскаму, што на сходзе 17 чэрвеня 1875 г., пасьля дакладнае праверкі 13 дакументаў, між імі й ліста (Брэвэ) Папы Урбана VIII (ад 8.02.1641 г.), вырашана, што інтэрнат сьвятых Сяргея й Вакха — гэта не манастыр, але калегія альбо семінарыя, заснаваная для Русінскага народу й адміністраваная Кангрэгацыяй Пашырэньня Веры.

Для нас галоўным ёсьць папскі ліст Урбана VIII у гэтай справе ад 8 лютага 1641 года, бо на яго спасылаюцца пазьнейшыя дакументы аж да нашых часоў.

[1] *Русінскае — пераклад лацінскага слова «Ruthenus».*

*(З працы Івана Хоми «Нарис історії храму Жировицької Богоматері і свв. мучеників Сергія і Вакха в Риме»)*

***Пераклад з украінскае мовы Уладзіміра Губскага (Полацак)***



*Храм сьв. Сяргея і Вакха і Жыровіцкай Багародзіцы ў Рыме. Малюнак XVIII ст.*

# Нашыя сьвятыні ў Расеі

*Даўней, у часы Рэчы Паспалітае, Полацкае архібіскупства было найбуйнейшым у складзе Кіеўскае мітраполіі. Пасьля Замойскага сабору ягоная значнасьць падкрэсьлівалася тым, што заступнікам мітрапаліта лічыўся Полацкі архібіскуп. Біскупства абыймала тэрыторыі сучасных Віцебскай і Магілёўскай абласьцей. Пад уладаю біскупатаксама былі грэка-каталіцкія парафіі Інфлянтаў (сучасная Латвія), Невельскага ды Себежскага паветаў (цяпер у складзе Расеі).*

Арганізатары нашае экспедыцыі-пілігрымкі ставілі за мэту высьветліць, якія з цэркваў, манастыроў, збудаваных у тыя часы, датрывалі да сёньня на гэтай *terra incognita*. Менавіта так, бо ў працах беларускіх дасьледчыкаў адсутнічаюць нават мінімальныя зьвесткі пра гэты край. Падчас пілігрымкі ейныя ўдзельнікі агледзелі, дакрануліся, увабралі ад духоўнасьці тых сьвятыняў, якія Бог захаваў дзеля напаміну пра справу Сьвятога Адзінства.



Стайкі, 11.08.1999. Уніяцкая царква XVIII ст.

У структуры Ўніяцкае Царквы горад Себеж зьяўляўся цэнтрам дэканату. Тут да сёньня захавалася на замкавай гары каменная Траецкая царква. Паводле гістарычных зьвестак, на гэтым месцы ў 1625 г. была напачатку збудаваная драўляная царква. Пазьней, у 1649 г., узьведзена каменная. Верагодна, у сярэдзіне XVIII ст. царква перабудоўвалася, тады й набыла рысы, што робяць яе падобнай да віленскага барока. Лёс царквы ў XIX ст. невядомы, але ў гадох 1903-1917 яна функцыянавала як касьцёл. Трэба адзначыць, што ў Себежы месьціўся даволі буйны бернардзінскі кляштар. Перад ягонай ліквідацыяй у 1831 г. жылі ў ім 16 манахаў. Верагодна, той кляштар з касьцёлам на загад уладаў былі разбураныя. Траецкая ж царква перададзеная пазьней рыма-каталікам. Насупраць праз плошчу стаіць былы дамок ксяндза, дзе цяпер месьціцца камісарыят. Праз увесь савецкі час храм стаяў зачынены, толькі ў 1990 г. перададзены праваслаўным. Гэта адзіная культавая пабудова, што захавалася ў горадзе.



Себеж, 10.08.1999. Траецкая царква.

Дакладная дата заснаваньня базыльянскага манастыра ў Вярбілаве невядомая. Пасьля першага падзелу Рэчы Паспалітае Базыльянскі закон на капітуле 1780 г. ў Жыдычыне (Украіна) быў падзелены на чатыры правінцыі: Руская і Літоўская ў складзе Рэчы Паспалітай, Галіцкая ў Аўстра-Вугоршчыне, Беларуская ў Расеі. Тады Вярбілава стала рэзідэнцыяй Беларускай базыльянскай правінцыі, у якую ўваходзілі манастыры віцебскі, барысаглебскі, сірацінскі, махіроўскі, тадулінскі, дабрыгорскі, ушацкі, вярбілаўскі, бязводзіцкі, пустынскі, белацаркоўскі, маравільскі, анупрэйскі, аршанскі, талачынскі. Паводле пастановы 1810 г., пры манастыры працавалі духоўная вучэльня й школа. У 1821-1823 гг. школа пераведзеная ў Себеж, духоўная вучэльня згадваецца яшчэ ў дакументах 1836 г. Пасьля Полацкага сабору 1839 г. манастыр адыйшоў да праваслаўных і існаваў да рэвалюцыі. Сёньня царквы ўжо няма, на ейным месцы стаіць новы корпус лякарні для састарэлых людзей. Два будынкі манастыра захаваліся ў даволі добрым стане.

Вёска Стайкі за два кіламетры ад сучаснае мяжы Беларусі ўбаку ад вялікіх дарог. Пэўна, праз сваю аддаленасьць захавалася тут на могілках драўляная ўніяцкая царква канца XVIII ст. У XIX ст. яна функцыянавала як праваслаўная. Пасьля 1917 г. тут месьціўся клуб, а пасьля II Сусьветнай вайны — збожжасховішча. Рамонт не рабіўся, й сёньня вежызваніцы амаль згнілі. Унутры сьцены царквы размаляваныя. Пад стольлю йдзе геамэтрычны арнамент. У алтарнай частцы захаваліся намаляваныя непасрэдна на сьцяне выявы Маці Божай з Дзіцяткам, нехта з апосталаў. Цалкам агледзець алтар мы ня здолелі праз адсутнасьць сьвятла. Пабудова ўнікальная, бо сёньня на тэрыторыі былога Полацкага архібіскупства ў сучасных межах Беларусі такіх помнікаў не захавалася (што разбурылі, а што зьвезьлі).

**Міхась Баўтовіч**
*Полацак*



Вярбілава, 10.08.1999. Будынкі былога базыльянскага манастыра.



✉✉✉

**Дастойны айцец Ігар Кандрацьеў!**

**Прашу надрукаваць у часапісе «Царква» успаміны спадарыні Ванды Чарнэцкае-Махнач пра айца Аношку. Спадарыня Ванда Махнач піша да мяне:**

*«Дарагая Раіса!*

*Прашу вельмі, прачытай у часапісе «Царква» пра Альпень і айца Аношку. Аб ім у мяне засталіся надзвычай добрыя, сардэчныя ўспаміны. Праз кароткі час ён быў сьвятаром у Ляхавічах, скуль я паходжу. Тады ён быў маладзенькі, вясёлы, харошы, працавіты, добры арганізатар. У айца Аношкі я першы раз спавядалася па-беларуску. Думаю, гэта была мая наогул першая споведзь. Пачала я спавядацца, як нас у школе вучылі, значыць, па-польску — а ён мяне перарваў і кажа: «Гавары так, як дома гаворыш з мамай...» Мне зрабілася радасна, і адразу перастала быць страшна. Я адчула, зразумела, што ён наш, свой чалавек. Усе яго любілі, асабліва дзеці. Бывала акружаць, не адступаюць ад яго. Ды, відаць, ня ўсім гэта падабалася. Спавядаліся мы ў яго па-беларуску, й хутка ў Ляхавічах а. Аношкі ня стала, перавялі яго ў іншае месца.*

*Айца Вацлава Аношку знаў айцец Германовіч, а кс. Пётр Татарыновіч быў ягоным прыяцелем. Ён нам потым і казаў, што айцец Аношка перайшоў да Ўніяцкага Касьцёлу. Многа гадоў пазьней пабачылі мы айца Аношку ізноў, калі ён гасьціў у кс. Татарыновіча ў Мядзьведзічах. Быў тады там і айцец Малец, якога немцы расстралялі ў Менску разам з айцом Глякоўскім, беларусам, што калісьці за Польшчай быў у Вільні сьвятаром у касьцёле сьв. Яна. Больш-менш у тым самым часе паў ахвярай з нямецкай рукі і айцец Гадлеўскі. Айцец Аношка быў вельмі разумны, здольны ды працавіты чалавек, беларускі патрыёт, мог бы шмат зрабіць добрага для беларускага народу, для беларускае Рыма-Каталіцкае ды пасьля Беларускае Ўніяцкае Царквы, каб меў на гэта волю — дазвол вышэйшых царкоўных уладаў...*

*Я, ды ня толькі я, але й іншыя беларусы Чыкага вельмі ўдзячныя часапісу «Царква», што так прыгожа аддалі пашану памяці айца Вацлава Аношкі. Сваімі сьціплымі ўспамінамі, у сотыя ўгодкі айца Вацлава Аношкі, хачу сказаць, што сьветлая і добрая памяць аб ім жыве ў думках і сэрцах удзячных ляхавічанаў, усяго беларускага народу.*

***Ванда Чарнэцкая-Махнач з Чыкага*».**

**Дастойны айцец Кандрацьеў! Спадзяюся, што дзеля ўшанаваньня памяці айца Вацлава Аношкі вышэй ад сэрца сказанае спадарыняй Вандай Чарнэцкай-Махнач будзе зьмешчана ў часапісе «Царква» ад імя ўсіх вернікаў-беларусаў. За што шчыра дзякую.**

**З найлепшымі пажаданьнямі й пашанай**

**Раіса Жук-Грышкевіч**
*Бэры, Канада*

*Ад рэдакцыі:*

**З вялікай радасьцю друкуем гэты ліст з Паўночнае Амерыкі. Ён ёсьць яскравым сьведчаньнем таго, што любоў і дабро, якія нёс уніяцкі сьвятар айцец Вячаслаў (Вацлаў) Аношка вернікам-беларусам візантыйскага і рымскага абрадаў падчас свайго душпастырства на Берасьцейшчыне, не забылася — яно праз усе гады, і нават ўдалечыні ад Бацькаўшчыны, з цеплынёю захоўваецца ў сэрцах ягоных парафіянаў. Рэдакцыя «Царквы» заўжды будзе рада зьмясьціць на старонках нашае газеты падобныя згадкі-ўспаміны пра сьвятароў, якія працавалі дзеля хрысьціянскай еднасьці ў розныя часы і ў розных мясцінах Беларусі.**

***«Катэдральны пляц»** — гэта месца ў «Царкве», якое мы сьпецыяльна адводзім для вашых допісаў, каб вы маглі задаць пытаньні, выказаць свае погляды і меркаваньні на праблемы Царквы і веры ў нашым грамадстве, падзяліліся роздумамі і разважаньнямі пасьля прачытаных матэрыялаў. Пішыце пра тое, што вас хвалюе, непакоіць.*

## Беларускія грэка-каталіцкія асяродкі

| *Назва парафіі* | *Горад* | *Сьвятар* | *Набажэнствы і рэлігійныя спатканьні* | *Душпастырскі цэнтр ці тэлефон для кантактаў* |
|---|---|---|---|---|
| Сьвятых роўнапостальных Кірылы і Мятода | Баранавічы | а. Ігар Кандрацьеў | **супольная малітва ці сьв. Літургія:** серада, пятніца, нядзеля — 18.00 | вул.Міцкевіча,65 тэл. 416-461 |
| Сьвятых братоў апосталаў Пятра і Андрэя | Берасьце | а. Ігар Кандрацьеў | **сьв. Літургія:** нядзеля — 18.00, будні дні — 19.00 **абедніца** — пятніца і субота, 19.00 **біблійны гурток:** чацьвер, 19.00 **сьпеўны гурток:** нядзеля, 17.00 | вул.Дворнікава, 63 тэл. 24-74-82 а. Ігар Кандрацьеў |
| Уваскрасеньня Хрыстова | Віцебск | а. Пахом Кавалёў | **сьв. Літургія:** нядзеля, 17.00 | вул.2-я Войкава, 6а тэл. 36-18-33 |
| Трох сьвяціцеляў | Гомель | а. Пахом Кавалёў, а. Казімір Ляховіч | **малітоўныя спатканьні:** нядзеля, 12.00 **сьв. Літургія:** па папярэдняй абвестцы | тэл. 55-79-03 сп. Андрэй Саладоўнікаў |
| Зьяўленьня Маці Божай у Фаціме | Горадня | а. дэкан Віктар Данілаў | **сьв. Літургія:** нядзеля — 10.00, падчас сьвятаў у будні дні — 18.00 **багаслоўскія канферэнцыі:** аўторак, 18.00 | вул.Гараднічанская, д. 32 а тэл. 33-24-50 а. Віктар Данілаў |
| Жыровіцкай іконы Маці Божай | Івацэвічы | а. Ігар Кандрацьеў | **сьв. Літургія:** субота, 19.00 **супольная малітва:** нядзеля, 10.00 | вул.Чапаева, 26-1 тэл.2-25-11 сп. Вячаслаў Гарчакоў |
| Сьвятога мучаніка Язафата | Ліда | а. Андрэй Абламейка | **сьв. Літургія:** субота, 14.00 **катэхеза:** серада, 16.00 | вул. Каліноўскага, д. 16, тэл. 45-000 |
| Бялыніцкай іконы Маці Божай | Магілёў | а. Пахом Кавалёў, а. Казімір Ляховіч | **супольная малітва ці сьв. Літургія:** нядзеля, 10.00 | капліца на могілках па вул. Лазарэнкі тэл.32-42-74 сп. Віктар Лосеў |
| Хрыста Чалавекалюбцы | Маладэчна | а. Андрэй Абламейка | **сьв. Літургія:** нядзеля, 18.00 **супольная вячэрняя малітва:** будні дні, 18.00 **катэхеза:** пятніца, 18.00 **катэхетычныя спатканьні для моладзі:** нядзеля, 10.00 | вул.Віленская, 44 тэл.75-0-74 |
| Маці Божай Нястомнай Дапамогі | Менск | а. Казімір Ляховіч | **сьв. Літургія:** нядзеля — 10.00, серада, чацьвер — 18.00 **малітоўна-катэхетычныя спатканьні моладзі:** чацьвер, 19.00 **акафістны гурток:** серада, 19.00 | ул.Прытыцкага, 38, 1-ы пад'езд, тэл. 2-20-47-89 а. Казімір Ляховіч |
| Сьвятога Язэпа | Менск | а. Андрэй Абламейка | **сьв. Літургія:** нядзеля — 12.00, панядзелак, пятніца — 19.00 **хор:** панядзелак, 20.00 **споведзь:** пятніца, 18.00 **катэхеза:** пятніца, 20.00 | ул.Прытыцкага, 38, 1-ы пад'езд |
| Сьвятога Кірылы Тураўскага | Пінск | а. Ігар Кандрацьеў | **супольная малітва ці сьв. Літургія:** нядзеля, 10.00 | тэл. 36-36-65 сп. Лявон Вабішчэвіч |
| Сьвятога мучаніка Язафата | Полацак | а. Пахом Кавалёў | **сьв. Літургія:** нядзеля, 9.30 **евангельскія чытаньні:** серада, 19.00 **катэхеза:** субота, 16.00 | вул.Навасёлаў, 70 тэл. 44-509 сп. Мікола Шарах |
| Манастыр сьвятых Барыса і Глеба | Полацак | а. Пахом Кавалёў | **сьв. Літургія:** 8.00 **Вячэрня:** 18.00 | вул.Навасёлаў, 70 тэл. 33-076 |
| Сьвятой Тройцы | Слонім | а. Ігар Кандрацьеў | **супольная малітва ці сьв. Літургія:** субота, 13.00 | вул.К.Маркса, 7 тэл. 2-01-72 спн. Яўгенія Лазар |

# Юбілейная пілігрымка ў Альбярцін

⇨ *Заканчэньне са с.1*

Вельмі прыемна, што памаліцца за альбярцінскіх айцоў езуітаў прыйшлі таксама іхнія былыя выхаванцы. Каб адаць пашану айцам езуітам, да Крыжа падыйшлі памаліцца нават некаторыя вернікі, якія цяпер ходзяць да праваслаўнай царквы (яна збудавана перад самай вайной айцамі езуітамі). Адна старая жанчына-ўніятка прынесла з сабою захаваны праз гады фотаздымак першага протаігумена альбярцінскіх айцоў езуітаў усходняга абраду — а. Уладзіміра Пянткевіча,— выдадзены з нагоды ягонай сьмерці (24 сакавіка 1933 году), з надпісам па-беларуску. Гэта вельмі ўсіх кранула.

Дарэчы, слонімскія грэка-каталікі нядаўна адшукалі на альбярцінскім цьвінтары магілы ўніяцкага сьвятара а. Івана Гермацюка, невядомай сястры-манашкі, якая працавала з дзеткамі ўніяцкай парафіі, і фактычна вызначылі месца пахаваньня протаігумена езуітаў а. У.Пянткевіча. Асабліва дапамагла ў гэтым сп-ня Браніслава Васіленка, якая доўгія гады па меры сілаў даглядала іхныя магілкі.

Урачыстасьці працягваліся далей у самім Слоніме, у касьцёле сьв. Андрэя, дзе месьціцца копія Жыровіцкай іконы Божай Маці. Хор «Бацькаўшчына», які быў адмыслова запрошаны на гэтае сьвята, даў канцэрт духоўных сьпеваў у касьцёле. Ад цудоўных беларускіх сьпеваў і гімнаў у выкананьні хору з Горадні адчувалася асаблівая лучнасьць з Богам, і перапоўненыя пачуцьцямі сэрцы пілігрымаў і мясцовых рыма-каталікаў узносілі свае шчырыя малітвы да Госпада за нашую шматпакутную Бацькаўшчыну.

**Ігар Бараноўскі**

# Давід

У часы караля Саўла жыў чалавек на імя Ясей. Было ў яго восем моцных сыноў. Наймешага з іх звалі Давід, і быў ён пастухом. Песьнямі Давіда ўсе людзі захапляліся, а сам ён быў такі сьмелы, што дзікія зьвяры ніколі не нападалі на статак, калі Давід быў паблізу.

Аднойчы Ясей паклікаў Давіда і сказаў яму:

— Сынок, занясі гэтую ежу братам сваім, якія разам з каралём нашым Саўлам змагаюцца супраць Філісьцімлянаў.

Давід зрабіў усё, як сказаў яму бацька.

Калі Давід быў са сваімі братамі, убачылі яны, што ад войска Філісьцімлянаў выйшаў магутны воін. Гэта быў Галіяф. Ён быў вышэйшы за тры метры, дзіда ў яго ных руках была падобная больш на дрэва.

— Ці ёсьць сярод вас чалавек, які можа наблізіцца да мяне?— зарычаў ён.— Няхай ідзе сюды, і я заб'ю яго.

Усё войска аж затрэслася, убачыўшы Галіяфа. Але Давід сказаў:

— Дазвольце мне прыняць гэты выклік.

— Ты ня можаш біцца з ім, ён вопытны воін, а ты яшчэ зусім хлопчык,— адказалі яму.

— Ня раз Бог дапамагаў мне ратаваць мой статак ад львоў і мядзьведзяў, няўжо ж на гэты раз Бог не дапаможа мне выратаваць народ свой ад аднаго філісьцімляніна?

Тады Саўл прапанаваў Давіду сваю зброю, але Давід адмовіўся і папрасіў пакінуць яму толькі прашчу, якой ён заўсёды адганяў зьвяроў.

Калі Галіяф убачыў Давіда — моцна зарагатаў:



— Няўжо ты хочаш справіцца са мной гэтым?

Але Давід, уклаўшы камень у прашчу, добра прыцэліўся і... Галіяф нават не пасьпеў падняць сваю дзіду — камень патрапіў яму роўна паміж вачэй.

Так маленькі пастушок, дзякуючы Моцы Божай, перамог магутнага волата Галіяфа.

***

Госпад наш Ісус Хрыстос абяцаў людзям, што пасьля таго, як Ён пойдзе да Айца Нябеснага, Бог спашле Духа Сьвятога, які будзе з намі аж да веку (Ян 14, 16).

Так што, мой маленькі чытач,— ня бойся — Моц Божая і Дух Сьвяты з табою! Ня бойся чыніць дабро, ня бойся дапамагаць слабейшым, не палохайся дапамагчы тым, каго крыўдзяць. Памятай заўсёды пра маленькага ізраільскага пастушка, які, калі вырас, стаў магутным каралём у сваёй краіне.

*Прачытаць пра Давіда ты зможаш сам альбо з бацькамі ў Бібліі, у кнізе, якая называецца «Першая кніга Царстваў», а пра тое, як Бог спаслаў Сьвятога Духа на Сваю Царкву, ты прачытаеш у «Дзеях Апосталаў».*

*Малюнкі Зыходу Сьвятога Духа альбо Перамогі Давіда, ты можаш прысласць у рэдакцыю — лепшыя мы надрукуем.*

**а. Андрэй Абламейка**

## РАССЫПАНКА




**Упарадкуй зьмешчаныя на колу склады ад 1 да 7. Утвары з іх словы і напішы ніжэй. Атрымаеш назву сьвята.**

______ ______ ______

Царква
грэка-каталіцкая газета
№ 2 (25), 2000

Адрас рэдакцыі:
вул.Дворнікава, 63
224014 г.Берасьце
Беларусь
Тэл./факс: (0162) 24-74-82

**Заснавальнік і выдавец:**
Берасьцейская грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў апосталаў Пятра і Андрэя
**Пасьведчаньне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 27.11.1997 г.
**Галоўны рэдактар:** сьвятар І Кандрацьеў
**Рэдактар:** Ігар Бараноўскі
**Падпісана ў друк:** 15 чэрвеня 2000 году, а 9-30
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (пасьв. № 836), вул.Мініна, 23-106, г.Менск. **Замова №**
**Аб'ём** — 2,0 ул.-выд.аркушы. **Наклад** 1250 асобнікаў.

*Наш разьліковы рахунак № 3015200210017 у Берасьцейскім філіяле № 2 ЗАТ "Абсалютбанк", МФО 150501242*

*Газета выдаецца на ахвяраваньні. Шчыра дзякуем і молімся за ўсіх нашых ахвярадаўцаў!*